наша свабода

№37(264) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 КРАСАВІКА 2002 году СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Затрымалі групу *НТВ*

*Учора каля 12.00 мінская міліцыя затрымала здымачную групу расійскай тэлекампаніі НТВ. Гэта адбылося ля будынку калоніі, што на вул. Кальварыйскай.*

Як паведаміў нам прадзюсер беларускага бюро *НТВ* Павел Антонаў, здымачная група тэлекампаніі дамовілася аб інтэрв'ю з жонкай былога рэктара Гомельскага медінстытуту прафесара Юрыя Бандажэўскага. Як вядома, той быў асуджаны да васьмі гадоў зняволення нібыта за хабарніцтва і цяпер адседжвае свой тэрмін у калоніі ў Мінску.

Галіна Бандажэўская прыехала ў Мінск на спатканне з мужам.

Пасля таго, як сустрэча скончылася, карэспандэнт *НТВ* Павел Селін запрасіў жанчыну да размовы перад камерай. Здымкі праводзіліся метраў за 50 ад турэмнага муру, каля П.Антонаў, і аб'ектыў камеры быў накіраваны ў адваротны ад яго бок. Але гэта не ўратавала расійскіх тэлежурналістаў ад канфлікту з міліцыяй. Чалавек, які прадставіўся як наменснік начальніка калоніі па рэжыме Лось, абурыўся фактам здымак побач з калоніяй і забраў усе дакументы карэспандэнта *НТВ* Паўла Селіна, аператара Канстанціна Марозава і асістэнта Зміцера Давыдзенкі.

Праверка дакументаў заняла амаль гадзіну. Потым усіх трох папрасілі напісаць пісьмовыя тлумачэнні, пасля чаго адпусцілі.

Расійскія журналісты не схільныя неяк каментаваць гэтае здарэнне. Мабыць, звычайныя ўмовы працы ў Беларусі, дзе кожны міліцыянт можа ўсхадзіцца, пабачыўшы тэлекамеру.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ДЗІЎНА

## У беларуса забралі каркадзіла

А дакладней – каркадзілавыя сківвіцы. Як паведаміў учора «*Интерфакс*», грамадзянін Беларусі прыляцеў у Маскву з Амерыкі. Мытнікі аэрапорта «*Шереметьево-2*», вывучыўшы ягоны багаж, знайшлі там згаданы фрагмент рэптыліі.

Прэс-служба Дзяржаўнага мытнага камітэту Расіі паведаміла, што каркадзілавыя сківвіцы былі «затрыманыя, бо пасажыр не заявіў пра іх у дэкларацыі, што з'яўляецца парушэннем мытных правілаў». Далейшы іх лёс пакуль невядомы.

**Ірына СТАРЦАВА**



# Таямнічы крадзеж у Доме літаратара


Фота Ул.ШПАПАКА

*Напярэдадні з'езду, прызначанага на травень, Саюз беларускіх пісьменнікаў скалануў чарговы скандал. Ён мае непасрэднае дачыненне да цяперашняга канфлікту ў кіраўніцтве СБП.*

Адна з прычынаў ягонага ўзнікнення – непразрыстасць у дзейнні «Беллітфонду», структуры СБП, якую ўзначальвае намеснік старшыні Саюзу Уладзіслаў Мачульскі, адзін з кіраўнікоў апазіцыйнай цяперашняму старшыні групоўкі СБП. Дасведчаная крыніца ў СБП паведаміла, што з сейфу Саюзу пісьменнікаў зніклі касеты запісаў мінулага з'езду, а таксама пратаколы адносна прынятага год таму рашэння пра сумяшчэнне дзвюх пасадаў у адной асобе: старшыня СБП ёсць старшыня праўлення «Беллітфонду». Такое рашэнне з'езд прыняў, аднак у рамках 13-га з'езду СБП агульнага сходу «Беллітфонду», на якім старшыня Саюзу пісьменнікаў мусіў быць афіцыйна прызначаны старшынём праўлення, не праводзіўся. Такім чынам, будучы намінальным старшынём «Беллітфонду», старшыня СБП практычна не можа выконваць гэтыя абавязкі.

*Заканчэнне на стар.7*

# Ва Украіне перамаглі дэмакраты

*Вынікі выбараў 31 сакавіка ва ўкраінскі парламент збольшага сенсацыяй не сталі. Перамаглі тыя партыі і блокі, каму гэта і прадракалі перадвыбарныя рэйтынгі. Вярхоўная Рада мае стаць больш апазіцыйнай да выканаўчай улады, чымсьці яе папярэдні склад. А поспех украінскіх дэмакратаў трохі сапсаваў настрой расійскім паліттэхнолагам.*


Фота IREX/ProMedia

У галасаванні па партыйных спісах на першым месцы апынуўся блок на чале з былым украінскім прэм'ерам Віктарам Юшчанкам «*Наша Украіна*» з 23,5%. На другім месцы таксама апазіцыя, праўда, ужо з іншага палітычнага флангу – Камуністычная партыя Украіны з 20%. Далей ідзе прапрэзідэнцкі блок «*За єдину Україну!*» з 12%. У Вярхоўную Раду прайшлі таксама, пераадолеўшы 4-працэнтны бар'ер, Сацыялістычная партыя Украіны на чале з Аляксандрам Марозам, «Блок Юліі Цімашэнкі», у якіх адпаведна па 7,2% і 7%, і Сацыял-дэмакратычная партыя (аб'яднаная) з 6,2%. Каля самае прахадное мяжы спыніўся блок Наталлі Вітрэнкі. Такім чынам, у парламенце будзе прадстаўлена 6 выбарчых блокаў і партыяў. Што да аднамандатных акругаў, дык тут у лідэрах беспартыйныя, «*За едУ!*» і «*Наша Україна*».

Менавіта два гэтыя блокі стануць хутчэй за ўсё прыкладна роўнымі паміж сабою і самымі шматлюднымі фракцыямі парламенту. Апрача ўжо названых вышэй партыяў, дэпутатамі сталі прадстаўнікі блокаў «Дэмпартыя-Дэмсаюз», «Адзінства» кіеўскага мэра Аляксандра Амельчанкі і шэрагу дробных партыяў.

*Заканчэнне на стар.3*

# Няміга: міліцыя не вінаватая?

*Спынена крымінальная справа па абвінавачанні афіцэраў міліцыі ў службовай халатнасці, якая прывяла да трагедыі на станцыі метро «Няміга»*

Суд Цэнтральнага раёну Мінску спыніў крымінальную справу ў дачыненні да двух афіцэраў міліцыі, якія абвінавачваліся ў службовай халатнасці, што прывяла да трагедыі ў падземным пераходзе на станцыі метро «Няміга» ў Мінску. Як стала вядома БелаПАНу, пра гэта ў пісьмовай форме паведамлена сваякам ахвяр трагедыі.

Нагадаем, што 30 траўня 1999 году ў цісканіне каля ўваходу ў метро на станцыі «Няміга» загінулі 53 чалавекі, больш за 200 – пацярпелі. Гэта былі ў асноўным маладыя дзяўчаты. Яны аказаліся самымі безабароннымі перад натоўпам, які, ратуючыся ад дажджу, кінуўся ў метро з рок-канцэрту, арганізаванага некалькімі буйнымі фірмамі з бясплатнай раздачай піва.

Следства праводзіла Пракуратура Рэспублікі Беларусь. У выніку ў службовай халатнасці былі абвінавачаны намеснік начальніка міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкаму Віктар Русак і былы начальнік аддзелу масавых мерапрыемстваў Міхаіл Кандрацін, які цяпер працуе ў Акадэміі МУС.

*Заканчэнне на стар.3*

ВЕСТКІ



## Новыя кошты сувязі

Міністэрства сувязі Беларусі паведаміла пра павелічэнне ў красавіку коштаў на свае паслугі. Робіцца гэта для таго, каб дапамагчы большасці раённых прадпрыемстваў сувязі, якія робіцца стратнымі. Тарыфы на паслугі вырастуць да 10%. Падвышэнне коштаў сувязісты зноў тлумачаць тым, што ў Беларусі самыя нізкія цэны на паслугі электрасувязі сярод краінаў СНД. Напрыклад, абаненцкая плата ў Беларусі не мянялася са снежня мінулага году і складае 684 беларускіх рублёў (менш за 0,5$), адзначылі ў міністэрстве.

## Беларусь у «цёмным» спісе

Літоўскі ўрад зацвердзіў спіс з 17 краінаў, да якіх будзе выкарыстаны адмысловы рэжым у замежным гандлі як да краінаў з нярыначнай эканомікай. Побач з Албаніяй, Арменіяй, Азербайджанам, Кіргізіяй і іншымі сюды патрапіла і Беларусь. Тым самым кошты на імпартаваную з гэтых краінаў у Літву прадукцыю будуць вызначацца ў адпаведнасці з коштам на аналагічную прадукцыю, выробленую ў краінах з рыначнай эканомікай. Гэта своеасаблівая заслона супраць заніжэння цэнаў на ўвазныя тавары, у тым ліку з Беларусі, і падрыву такім чынам пазіцыі літоўскіх вытворцаў.

## Паўтары тысячы банкрутаў

Паўтары тысячы прадпрыемстваў Беларусі падпадуць пад працэдуру банкрутства. Калі ў 2001 годзе яна адбылася ў адносінах да прыкладна 700 прадпрыемстваў розных формаў уласнасці, то сёлета ў вытворчасць прыйдзе ўдвая большая колькасць спраў. Па звестках дэпартаменту па санацыі і банкрутстве пры Міністэрстве эканомікі, нават дзяржаўныя прадпрыемствы, якія лічацца «свяшчэннымі каровамі», не змогуць пазбегнуць працэдуры банкрутства. Ужо разглядаюцца справы ў адносінах да 48 такіх прадпрыемстваў.

## Цесна ў беларускіх турмах

У месцах пазбаўлення волі на Беларусі цяпер утрымліваюцца 42 тысячы асуджаных, а выпраўленчыя установы перапоўненыя на 37%. Пра гэта на пленуме Вярхоўнага суду Беларусі паведаміў міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў. Як лічыць кіраўнік міліцэйскага ведамства, перапаўненне беларускіх выпраўленчых установаў адбываецца з-за таго, што ўсё часцей замест пакаранняў у выглядзе штрафаў выкарыстоўваюцца прысуды ў выглядзе пазбаўлення волі. Адпаведна статыстыцы МУС, у 1998 годзе 16% прысудаў былі вынесеныя ў выглядзе штрафаў, а ў 2001 годзе – толькі 4,9 %.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1740

## Памяці Вячаслава Адамчыка



Мінскі гарвыканкам даў Саюзу беларускіх пісьменнікаў згоду на ўшанаванне ў Мінску памяці вядомага беларускага пісьменніка Вячаслава Адамчыка. Сталічныя ўлады далі дазвол СБП усталяваць на доме па праспекце Скарыны, 12 мемарыяльную дошку з наступным тэкстам: «У гэтым доме з 1997 па 2000 гады жыў выдатны беларускі пісьменнік Вячаслаў Уладзіміравіч Адамчык». Мастацкае афармленне мемарыяльнай дошкі трэба будзе яшчэ ўзгадніць з Міністэрствам архітэктуры.

**Рыгор БУЯН**

## Паліўная адказнасць

Узмацняюцца меры адказнасці службовых асоб за незабеспячэнне захаванасці і неэфектыўнае выкарыстанне гаруча-змазачных матэрыялаў (ГЗМ). Эксплуатацыя ў арганізацыях тэхнікі з нясправўнымі спідометрамі пацягне накладанне штрафу на службовых асоб у памеры ад 5 да 10 базавых велічынь. Водпуск або набыццё арганізацыямі і грамадзянамі ГЗМ у парушэнне ўстаноўленага парадку пацягне накладанне штраф на службовых асоб арганізацый у памеры ад 5 да 30 базавых велічынь, а на грамадзян, якія дапусцілі гэтыя парушэнні, у памеры ад 5 да 20 базавых велічынь з пакрыццём нанесенай шкоды.

**Аляксей АРЭШКА**

## Даражэюць беларускія курорты

Урад Беларусі згортвае сістэму датацыяў на адпачынак: з гэтага году скасоўваецца фінансаванне 30% пуцёвак у санаторыі і прафілакторыі Беларусі. Распараджэнне пра рэалізацыю 30% пуцёвак за наяўны разлік у санаторыях і прафілакторыях Беларусі з'явілася адразу ж пасля ўвядзення ў сістэме Міністэрства аховы здароўя 30% платных паслугаў. Цяпер Рэспубліканскі цэнтр аздараўлення і санаторна-курортнага лячэння будзе замаўляць толькі 70% ад агульнай колькасці месцаў.

У Беларусі існуюць 17 дамоў адпачынку, якія працуюць летам. У міжсезонны перыяд дзейнічаюць 70 санаторыяў і 133 прафілакторы. У залежнасці ад іх профілю і камфортнасці адна пуцёўка на 21 дзень каштуе ад 300 да 600 тысяч рублёў. Для бальшыні людзей гэтая сума складае не адзін месячны заробак. Таму ўсе стараюцца набыць пуцёўкі менавіта праз Рэспубліканскі цэнтр, які датуе ад 70 да 90% кошту адпачынку. Летась, да прыкладу, такіх было каля аднаго мільёна чалавек. У пераважнай бальшыні гэта чарнобыльцы, дзеці-інваліды і пракурорскія работнікі, якія маюць права на цалкам бясплатны санаторны адпачынак. Астатнія льготныя месцы прапаноўваюцца прадпрыемствам і ўстановам паводле прынцыпу: 32 пуцёўкі на тысячу чалавек. Таму чэргі складаюць тут не адзін год. І сёлета заяваў больш, чым у мінулым годзе. Людзі хочуць адпачываць. Але пры ўмове, што пуцёўкі будуць датаваныя за кошт дзяржавы. Пасля скарачэння датацыяў на пуцёўкі чэргі павялічацца яшчэ больш. Не закране гэтая праблема, бадай, толькі дзве катэгорыі грамадзянаў: вяскоўцаў, якія не маюць часу і грошай нават на датацыйныя пуцёўкі, а таксама высокапастаўленых чыноўнікаў, якія абслугоўваюцца праз так званую «лечкамісію».

**Галіна МАК**

## Плата за кватэру – утрая больш

Кватэрная плата павялічылася на 43,8%. У лютым яна ўжо павялічвалася на 82,2%. На 20% узрос кошт ацяплення і гарачай вады. З пачатку году кватэрная плата павялічылася ў 2,74 раза (за ўвесь 2001 год – на 38,5%), ацяпленне падаражэла на 38,3%, гарачая вада – на 38,2%, электраэнергія – на 25%, халодная вада і каналізацыя – на 12,2%, газ – на 7,1%, плата за карыстанне ліфтам – на 9%.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Цяпла не будзе

Больш за тысячу батарэй спатрэбіцца, каб аднавіць ацяпляльную сістэму ў 78 дамах Пінску, што пацярпелі падчас аварыі 29 сакавіка.

Як паведамілі ва ўпраўленні МНС па Брэсцкай вобласці, з-за павышэння ціску ў сетцы зламаўся насос, прычым аварыйная аўтаматыка чамусьці не спрацавала. У выніку былі выведзены з эксплуатацыі 299 батарэй у 255 кватэрах. Да аднаўленчых работ падключыліся камунальнікі і энергетыкі. У многіх кватэрах за мінулыя выходныя цеплазабеспячэнне было наладжана. Аднак там, дзе батарэі палопаліся, цяпла нейкі час не будзе. Некалькі соцень батарэй мясцовыя службы знайшлі ў сябе, астатнія будуць дастаўлены з Мінску; гэта зацягвае аднаўленчыя працы.

Па загадзе стафшыні Гродзенскага гарвыканкаму Аляксандра Антоненкі 1 красавіка ў Гродне завяршыўся ацяпляльны сезон. Выключэнне зроблена толькі для бальніц і дзіцячых дашкольных установаў.

Вясновае цяпло гарадскія ўлады сустрэлі з палёгкай: занадта абвастрыліся зараз праблемы з бюджэтам. Амаль 6,5 млрд. рублёў складае запазычанасць абласнога цэнтру Гродзенскаму прадпрыемству цеплавых сетак. З-за гэтага сёлета аб'ёмы капітальнага будаўніцтва і рамонту цеплаcетак у Гродне будуць скарочаны амаль напалову.

**БелаПАН**

## Тры гады чакаць парадку



Фота Ул. ШЛАПАКА

У мінулы аўторак, 2 красавіка, у Мінску пачалася рэканструкцыя плошчы Незалежнасці. У 1960 гадах дзеля стварэння гэтай, адной з самых вялікіх і самых няўтульных гарадскіх плошчаў Еўропы, былі знесены два кварталы мінскай забудовы. Да таго ж плошча аказалася з усіх бакоў атычана транспартнымі патокамі, а пераход праз яе пешшу даўно набыў характар занятку, небяспечнага для жыцця. З гэтай прычыны сквер на плошчы не скарыстоўваўся людзьмі.

Цяпер наземныя работы на плошчы вядзе будаўнічае ўпраўленне № 73. Яго кіраўнік Павел Улашчанка пакуль не мае на руках чарцяжоў праекту. Ён кажа, што гарадское начальства вызначыла вельмі сціслыя тэрміны, аўтары ідэі рэканструкцыі з інстытуту «Мінскграда» не дэталізавалі пакуль дакументацыі першага этапу. Да канца гэтага году трэба будзе збудаваць прамы транспартны калідор з праспекту Скарыны на вуліцу Масхоўскую. Для пешаходаў пабудуюць два падземныя пераходы у дадатак да таго, што ёсць каля гатэлю «Мінск».

У наступныя два гады плануецца будаўніцтва пад зямлёй шматузроўневай аўтастаянкі, а таксама падземнага «гандлёвага гораду» з крамамі і кавярнямі. Улада спадзяецца таксама на капітал інвестараў. У залежнасці ад прапанаваных грашовых сумаў планы рэканструкцыі могуць змяніцца. Археолагі земляным работам не пярэчаць – у гэтай частцы Мінску няма культурных напластаванняў.

Віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі архітэктараў Аляксандр Калантай лічыць, што з-за дэфіцыту фінансавых сродкаў улада абмяжуецца спрошчаным праектам рэканструкцыі плошчы Незалежнасці.

**Вячаслаў КУЛІК**

### УДАКЛАДНЕННІ

У сувязі з вялікай колькасцю тэлефанаванняў чытачоў газеты з просьбай паведаміць, што за дамы дакладна ў мінскім мікраарёне Шабаны будуць знесеныя (а жыхары іх атрымаюць кватэры ў хмарачосе каля стадыёну «Дынама»), рэдакцыя мусіць звярнуць увагу, што нататка пра мінскія хмарачосы з'явілася ў нумары за 1 красавіка. Тое самае тычыцца такога высокага курсу даляру і яшчэ некалькіх неправўдзівых інфармацый. Што за яны – здагадайцеся самі.

Хочам таксама паведаміць, што прыдумшчыкі згаданых жартаў на загад галоўнага рэдактара пазбаўленыя прэміяльных.

## Дваццаць хвілінаў на свабоду




У панядзелак аб 11 гадзіне ля будынку Гарадзенскага аблвыканкаму восем гарадзенцаў правялі несанкцыянаваны пікет у абарону журналістаў «Пагоні» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Праз дваццаць хвілінаў шэсць чалавек з ліку ўдзельнікаў пікету затрымала міліцыя.

Удзельнікі пікету трымалі ў руках плакаты з лозунгамі: «Мажэйка, Маркевіч – Хто наступны?», «Свабода = Свабода слова», «Разам за ПАГОНЮ!». На прапановы міліцыянтаў згарнуць плакаты і разысціся пікетоўцы не рэагавалі. З патрабаваннем разысціся з аблвыканкаму выйшаў нават кіраўнік абласнога ўпраўлення інфармацыі і друку Уладзімір Амелька.

Выйсці ў Дзень смеху з пратэстам да будынку аблвыканкаму, паводле пікетоўцаў, іх вымусіла «абсурднасць расправы над журналістамі».

«Менавіта ў аблвыканкаме прымалася рашэнне распачаць крымінальную справу супраць журналістаў, і менавіта з аблвыканкаму дадзены загад распраўіцца з імі», – адзначыў удзельнік акцыі Дзмітрый Дулько.

Арганізатарам несанкцыянаванага пікету ў падтрымку журналістаў выступіла незарэгістраваная Канфедэрацыя дзеючых суполак «Разам!».

Сёння на 14 гадзінаў прызначаны суд над затрыманымі: Дзмітрыем Антаневічам, Дзмітрыем Дулько, Стасам Пачобутам, Паўлам Мутным, Алесем Дзянісавым ды Іллёй Пячыніным.

**Алеся СІДЛЯРЭВІЧ**
**www.pahonia.com**

### МЕДЫЦЫНА

## На ўвесь Мінск – адзін выцвярэзнік

Сталіца Беларусі адмаўляецца ад фінансавання з бюджэту 2002 году медыцынскіх выцвярэзнікаў. Ужо прынята рашэнне зачыніць іх у Першамайскім і Заводскім раёнах. Як паведаміў начальнік фінансавага ўпраўлення Мінскага гарвыканкаму Аляксандр Кернажыцкі, ініцыятыва пазбавіць п'яных часовага прытулку пад дахам належыць гарадскому ўпраўленню ўнутраных справаў. Вызваленыя сродкі мэтава накіроўваюцца ў органы правапарадку на паляпшэнне матэрыяльнага забеспячэння. Міліцыя спасылаецца на тое, што выцвярэзнікі павінны ўтрымлівацца за кошт самых пацыентаў. Аднак амаль непераадольная перашкода гэтаму – звычка большасці з падабраных на вуліцы піць да апошняга рубля і нідзе не працаваць. Дый колькасць пратаколаў сведчыць, што ў сярэднім за суткі самастойна не даходзяць да дому і трапляюць у клапатлівыя рукі медыкаў з выцвярозніка каля 25 чалавек. У пятніцу і перадсвяточныя дні колькасць такіх гаротнікаў павялічваецца ўдвая. Відаць, больш значная колькасць выцвярозваецца ў ціхіх нябачных міліцыі куточках пад плотам. Міліцыянты лічаць, што калі на ўвесь Мінск застанецца толькі адзін выцвярэзнік у Маскоўскім раёне, то ён зможа справіцца з крытычнай нагрузкай. Іншае перакананне маюць медыкі. П'яны на вуліцы рызыкуе страціць здароўе. Зімой гэта абяцае рэзкае павелічэнне выпадкаў абмаражэння.

**Галіна МАК**

### АКЦЫІ

## Курс – на «Чарнобыльскі Шлях'2002»

«Чарнобыльскі Шлях'2002» пройдзе ў Мінску 26 красавіка. Тэрмін названы на паседжанні Каардынацыйнай Рады дэмакратычных сілаў (КРДС). Мяркуецца, што розныя мерапрыемствы ў гадавіну аварыі на ЧАЭС адбудуцца і ў рэгіёнах.

Нацыянальны аргкамітэт па правядзенні «Чарнобыльскага Шляху» пачне сваю працу з 3 красавіка. Кіраўніком аргкамітэту абраны вядомы беларускі вучоны, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Іван Нікітчанка.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Ва Украіне перамаглі дэмакраты

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Расстаноўка сілаў у Вярхоўнай Радзе будзе адбывацца цягам некалькіх наступных месяцаў. Але па ўсім відаць: ніхто ў Вярхоўнай Радзе трывалай большасці мець не будзе. Калі яна будзе ўтварацца, то хутчэй за ўсё сітуацыйна. У адрозненне ад пракучмаўскага блоку, ючшанкаўскаму ёсць з кім блакавацца. Гэта не толькі блок Юліі Цімашэнкі, а яшчэ і левыя, але выразна апазіцыйныя ўкраінскаму прэзідэнту сацыялісты і камуністы. І яны ўжо зараз агучваюць намеры зладзіць імпічмент Леаніду Кучму.

Напярэдадзе – прэзідэнцкія выбары. Парламенцкія ж абазначылі асобаў, якія прэтэндуюць на прэзідэнцкае крэсла. Гэта лідэры Сацыял-дэмакратаў (аб'яднаных) Уладзімір Медвядчук, сацыялістаў – Аляксандр Мароз, камуністаў – Пётр Сіманенка, дэмакратаў – Віктар Ючшанка і Юлія Цімашэнка. Называецца ў якасці пераемніка цяперашняга ўкраінскага прэзідэнта імя кіраўніка кучмаўскай адміністрацыі Уладзіміра Літвіна. Не выключана, што застацца на трэці тэрмін паспрабуе і сам Кучма. Напрыканцы сакавіка Юлія Цімашэнка заявіла, што мае інфармацыю, нібыта Канстытуцыйнаму суду Украіны спушчана даручэнне «прапрацаваць» такі варыянт падзеяў.

> А вось як галасавалі грамадзяне Украіны, што часова пражываюць у Беларусі. 31 сакавіка працавалі два выбарчыя ўчасткі ў Мінску і Брэсце. У сталіцы ўдзел у галасаванні ўзялі 185 асобаў, 56 з якіх выказалі свае сімпатыі блоку «*За єдину Україну!*», 39 – Кампартыі, 34 – блоку «*Наша Україна*». У Брэсце «тройка» лідэраў мае такую паслядоўнасць: выйграла «*За едУ!*» (30 галасоў), далей ідуць «*Наша Україна*» (14) і камуністы (9).

Многія аналітыкі адзначаюць, што гэтыя парламенцкія выбары ва Украіне прайшлі пад знакам прыхаванай барацьбы за ўплыў на нашую паўднёвую суседку паміж ЗША і Расіяй.

Афіцыйныя украінскія ўлады і тэлебачанне нават заявілялі пра недапушчальнасць умяшання ва ўнутраныя справы Украіны. Праўда, гэта тычылася чамусьці толькі ЗША. На заявы ж у падтрымку прарасійскіх украінскіх партыяў, у прыватнасці з боку кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Расіі Аляксандра Валошына, і на выказванні Уладзіміра Жырыноўскага, што перамога блоку Ючшанкі пацягне за сабой раскол Украіны, тамтэйшае Міністэрства замежных справаў прамаўчала.

А вось рэзалюцыя Кангрэсу ЗША з заклікам правесці сумленныя выбары украінскія ўлады раздражніла. Менавіта гэта галава адміністрацыі Леаніда Кучмы Уладзімір Літвін назваў умяшаннем ва ўнутраныя справы Украіны. А падбухторыў яго на гэта пасол Расіі ва Украіне Віктар Чарнамырдзін, які заявіў: «краіна, дзе выбралі аднаго прэзідэнта, а кіруе другі, не мае права павучаць 50-мільённую дзяржаву». Ну, вядомая рэч, хто мае права павучаць украінцаў і беларусаў...

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Няміга: міліцыя не вінаватая?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Артыкул 168 Крымінальнага кодэксу Беларусі ў рэдакцыі 1960 году, па якім яны абвінавачваліся, прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 3 гадоў, або папраўчых работ на тэрмін да 2 гадоў, або штрафу, або звальнення з пасады. Афіцэры міліцыі сваёй віны не прызналі.

25 сакавіка суд Цэнтральнага раёну Мінску разглядзеў гэтую справу. Ён пастанавіў перакваліфікаваць абвінавачанне з артыкулу 168 КК у рэдакцыі 1960 году на частку 1 артыкулу 428 КК у рэдакцыі 1999 году, якая прадугледжвае мякчэйшае пакаранне. У сувязі з заканчэннем тэрміну даўнасці суддзя спыніў крымінальную справу ў дачыненні да Русака і Кандраціна. Сваякі ахвяраў абураны гэтым рашэннем суду і заявілі, што будуць дамагацца яго абскарджання ў пракуратуры.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Чыноўнікі хаваюць маёмасць

Адразу некалькі кіраўнікоў райвыканкамаў апынуліся перад пагрозай крымінальнага пераследу. Пра гэта заявіў у панядзелак генеральны пракурор Беларусі Віктар Шэйман падчас сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам.

Як перадае прэзідэнцкая прэс-служба, В.Шэйман распавёў кіраўніку дзяржавы, што пракуратура правярала 30 райвыканкамаў. Высветлілася, што цэлы шэраг чыноўнікаў з адміністрацыяў Цэнтральнага раёну Гомелю, Ашмянскага, Вілейскага, Аршанскага, Шумілінскага, Брэсцкага і Пінскага райвыканкамаў падалі несапраўдныя і няпоўныя звесткі ў сваіх дэкларацыях аб даходах і маёмасці, у прыватнасці, аб прыватызаваных кватэрах і асабістым аўтатранспарце. Папростму кажучы, паспрабавалі схаваць ад дзяржавы і сугрaмадзянаў тое, што ім удалося прыдбаць, седзячы ў чыноўніцкім крэсле.

У тэорыі пасля такіх заяваў можна было б чакаць указу пра неадкладныя адстаўкі згаданых чыноўнікаў. Бо атрымліваецца, што разрэкламаваная «прэзідэнцкая вертыкаль» – карумпаваная і струхлелая структура, дзе пануюць, мякка кажучы, несумленныя людзі (напрыклад, кіраўнікі пералічаных райвыканкамаў). Аднак вядома, што прызначэнні і адстаўкі чыноўнікаў звычайна робіцца не на падставе законнасці, а па прынцыпе асабістай адданасці. Абавязкова ўзгадаюць і афіцыйныя лічбы тых, хто «правільна» прагаласаваў на прэзідэнцкіх выбарах у тых самых раёнах. І пасадзяць толькі тых кіраўнікоў, хто ідэалагічную працу «праваліў».

Сапраўды, калі паглядзець на звесткі пра чыноўніцкія крымінальныя справы, то яны болей сціплыя. Па словах генеральнага пракурора, расследуюцца справы ў дачыненні да старшыні Клімавіцкага райвыканкаму У.Канавалава, першага намесніка старшыні Глыбоцкага райвыканкаму М.Мацыеўскага, былога старшыні Дзяржынскага райвыканкаму У.Ткачова і былога старшыні Ашмянскага райвыканкаму У.Пракопчыка. І пакуль усё.

Дарэчы, сярод лічбаў, прадстаўленых генпракурорам, прагучалі звесткі пра «схаваныя ад уліку» злачынствы. У трох райаддзелах унутраных справаў – Баранавіцкім, Бабруйскім і Маладзечанскім – зрабілі «нябачнымі» 329 злачынстваў, у тым ліку 44 разбойныя напады, 8 рабаўніцтваў і 133 крадзяжы.

**Міхась КАРПОВІЧ**



# Краіна штрафаў і арыштаў

*У Гродне абмяркоўваюць: ці варта было апазіцыі збірацца на Дзень Волі ў гарадскім парку? Ці не прасцей было б згадзіцца з уладамі і правесці ўрачысты сход у палацы культуры «Юнацтва»? Арэнда каштавала 400 тысяч рублёў. А штрафаў за акцыю далі на 2 мільёны 200 тысяч. Ды яшчэ 20 сутак арышту – напалам для дваіх удзельнікаў.*

Спрачацца тут няма сэнсу. Людзі, якія пацярпелі, вартыя павагі. Без сапраўднага змагання нічога не бывае. Ні незалежнасці, ні дэмакратыі. Сяргей Мальчык, старшыня гарадской арганізацыі БНФ, сёння знаходзіцца за кратамі – на 10 сутак. З першага дня ён абвясціў галадоўку на знак пратэсту супраць карных дзеянняў уладаў праз свой суд. Варта спыніца і паразважаць над тым, што адбылося. Мы жывём у дзяржаве, дзе за невялікія (адміністрацыйныя) парушэнні караюць надзвычай жорстка. Дзе адміністрацыйныя штрафы – за палітыку – значна перавышаюць памер дзяржаўнай прэміі. Абсурдная краіна!

Мікола Лемяноўскі атрымаў за Дзень Волі штраф у 1,5 мільёна рублёў. У чым ягоная правіна? Частка ўдзельнікаў святкавання дайшла да Новага замка, каб пакласці да мемарыяльнай шыльды паўстанцам Тадэвуша Касцюшкі кветкі. Пакласці і ўцячы за рог будынка? Не, – як расказаў мне Лемяноўскі, – трэба было б, каб нехта сказаў колькі слоў. І ён гэта зрабіў сам. І зарабіў гэтым астранамічны штраф. Дошку гэтую адкрывалі, дарэчы, на пачатку восені памятнага 1994-га. Прыехалі замежныя дыпламаты, але не прыехалі прадстаўнікі дзяржаўнай улады са сталіцы. Чаму? Бо краіна надаўна зарабіла сабе прэзідэнта. Якога цікавяць толькі савецкія традыцыі. А не паўстанцкі ўрад Касцюшкі.

Дарэмна прамоўцы ў мінулы Дзень Волі нагадвалі пра 74-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Улады цікавяцца толькі рэвалюцыйнымі камітэтамі. А ў нашым горадзе, дзе часова знаходзіўся ўрад БНР, гэтая падзея павінна быць увекавечана. А таксама – стварэнне ў горадзе ў тым жа 1919 годзе Першага беларускага палка. І гэта калісьці будзе абавязкова. А пакуль адна гродзенская газета друкуе нататку вайсковага пенсіянера пад назвай «*Наши это праздник?*» І ён тлумачыць, што «нашыя» – першамай і гэтак далей. Пенсіянер гэты вельмі актыўны, адзначае з сябрамі «вялікі акцябр», дзень нараджэння Ілліча ды астатнія падобныя даты. Ніхто ім не перашкаджае, улады ўсяляк спрыяюць. Аднак пенсіянеру гэтага ўжо замала. Ён прыехаў аднекуль да нас, і яму пляваць, што тут Беларусь, што яна мае сваю, адрозную ад расейскай, гісторыю, свае памятныя даты, сваіх герояў. Ім пляваць на ўсё беларускае. Улады ў гэтым ім дапамагаюць. Лепей бы гэты актывіст ветэранскага руху абурыўся тым, як сканаў на прыступках абеліска ў гарадскім парку ягоны калега – кіраўнік міліцэйскай ветэранскай арганізацыі. Гэта адбылося на пачатку сакавіка. Пенсіянеру стала кепска, ён упаў на прыступкі каля вечнага агню, а побач начальства працягвала свае «патрыятычныя» прамовы. Гэта прызмерна актыўнага дзеяча-пенсіянера не абурыла. А вось калі з другога боку абеліска сабраліся маладыя патрыёты на Дзень Волі, тут ён не стрымаўся.

Ведама, прадстаўнікі апазіцыйных партый былі крыху наіўныя. Яны пайшлі ў гарвыканкам размаўляць і дамаўляцца наконт Дня Волі. Маўляў, у горадзе новы галава – Аляксандр Антоненка. Можа, ён не будзе такім жорсткім, як былы – Анатоль Пашкевіч? Але яны – усе аднолькавыя. І потым, не варта было забывацца, што ўжо пры Антоненку жорстка пакаралі актыўнага сябра БНФ Змітра Іваноўскага. Іх прамовіў на месцы знішчанага ўладамі гатычнага касцёла – Фары Вітаўта. І атрымаў за гэта штраф – 1,5 млн. рублёў. Улады, замест таго каб адбудаваць разбураную святыню, штрафуюць на фантастычныя сумы. А сам разгон удзельнікаў святкавання 24 сакавіка? Гэта выглядала як буйнамаштабная аперацыя міліцыі і спецслужбаў супраць мірных гараджанаў, уся віна якіх у тым, што яны не пераабралі ў мінулым верасні рэпрэсіўную ўладу. Так што прадстаўнікі апазіцыі вельмі хутка расчараваліся ў новым старшыні гарвыканкаму і лічаць цяпер, што ён і надалей будзе дзейнічаць так, як трэба гаспадару краіны.

Краіна дурных спектакляў. Праўда, спектакль з добрым і кепскім суддзём у Ленінскім судзе Гродна цяпер не атрымаўся. Раней справы апазіцыянераў аддавалі прыблізна напалам двум маладым суддзям па адміністрацыйных справах. Адзін караў больш жорстка, другі – троху меней. Наступным разам яны мяняліся ролямі. Адзін з іх (які ў канцы мінулага году пакараў штрафам З. Іваноўскага) не вытрымаў і перайшоў працаваць у калегію адвакатаў, будзе бараніць людзей у судзе, а не караць. Уся праца засталася Д. Дземчанку, які цяпер адзін «апякуецца» апазіцыяй. За апошні Дзень Волі ён двойчы аб'явіў арышт па 10 сутак, тром асобам «дасталіся» штрафы – 1,5 мільёна, 500 тысяч і 200 тысяч. Праўда, былі і тры папярэджанні. Адзін маладзён «чыстасардэчна раскаяўся», а супраць двух другіх асобаў не хапіла доказаў.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## СВОЙ ГОЛАС

***– Каго з беларускіх пісьменнікаў вы чыталі апошнім годам?***



**Віктар, мастак:**
– Я перачытваў. «Каласы пад сярпом тваім», «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча. Яшчэ мне ягэ «Лісты» падабаюцца, перачытваў нядаўна таксама. Быкава чытаў, апошнія яго эсэ ў «Нашай Ніве» ды ў другіх выданнях.



**Тамара, пенсіянерка:**
– Апошняе, што я чытала, – «Жаба ў каляіне» Кандрата Крапівы, і было гэта ў школе яшчэ. З таго часу больш не чытаю.



**Аксана, спявачка:**
– Вы ведаеце, я ўкраінка, і па-беларуску чытаць не магу, але з таго, што перакладзена на рускую мову, чытала Янку Маўра, яго фантастыку, здаецца.



**Таня, студэнтка:**
– Я не памятаю... Я дык у прынцыпе ўвогуле не асабліва чытаю.



**Ларыса, выкладчыца музыкі:**
– Алеся Адамовіча чытала.



**Людміла, гісторык:**
– Гэта мне цяжка так адразу адказаць. Сучасныя вам патрэбныя?.. Вы ведаеце, я ўвогуле ніводнага прозвішча ўспомніць не магу, відаць, зусім нічога не чытала.



**Таццяна, працуе ў Доме быту:**
– Уладзіміра Караткевіча, вельмі яго паважаю. І вершы ягоныя, і прозу. Калі канкрэтна, то «Каласы пад сярпом тваім» вельмі сур'ёзная рэч. Ну і з дзяцінства вельмі падабаецца «Дзікае паляванне караля Стаха», яшчэ раней, чым фільм убачыла. На беларускай мове вельмі падабаецца чытаць.



**Дзяніс, праграміст:**
– Я не цікаўлюся мастацкай літаратурай, па мне больш літаратура навуковая, са спецтэрмінамі рознымі, пра радыётэхніку.



**Толя, кіроўца:**
– Што чытаў? Не памятаю. Якуба Коласа, можа. А што – забыўся. У школе гэта было.



**Надзея Міхайлаўна:**
– Я апошні раз чытала па-беларуску нешта гадоў дваццаць назад, што – не памятаю.



**Алег, ваенны ў запасе:**
– Караткевіча, каго тут яшчэ ўспомніць. Я больш фільмы гляджу, чытаю не надта.

Апытанне праводзілі
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота).**

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Гэтыя адказы выпадковых рэспандэнтаў сведчаць, па сутнасці, пра тую ролю, якая адводзілася і адводзіцца ўладамі беларускай мове ва ўсіх сферах жыцця нашага грамадства. Пасля невялікага курсу беларускай мовы і літаратуры, «пройдзеных у школе», большыня грамадзянаў расстаецца з беларускай кнігай і літаратурай назаўжды, бо з сацыяльнай, грамадскай і палітычнай сфераў жыцця мова наўмысна і з ухвалення высокапастаўленага чынавенства выключана. Беларусь – адзіная краіна, дзе існуе такая сітуацыя. Немагчыма ўявіць у такой якасці паляка, немца, чэха, літоўца ці балгарына. Выціскванне мовы адгукаецца малой запатрабаванасцю літаратуры. І хлусіць той, хто лічыць, што прычына гэтага – найперш у самой літаратуры, а не ў моўнай практыцы мільёнаў людзей.

# Прытулак для пакрыўджаных

*Тры гады таму, калі ў Мінску адчынялася гэтая ўстанова, яна задумвалася як крызісны рэабілітацыйны цэнтр для жанчын, што зазналі гвалт ва ўласнай сям'і. Аднак сюды пачалі прыходзіць з самымі рознымі праблемамі, а не толькі звязанымі з гвалтам і сям'ёй. І не толькі жанчыны.*

### Псіхолаг дапаможа

Сёння гэта адзіны цэнтр такога кшталту на ўсю краіну. Іх было некалькі, аднак выжыць змог толькі гэты. Таму людзі сюды звяртаюцца з розных куткоў Беларусі – ад Гродна да Жыткавічаў. Бывае, што тэлефануюць і звычайна трывушчыя жанчыны з вёсак, аднак гэта ўжо ў крайніх выпадках, калі ад мужа зусім ніякага жыцця няма.

Псіхалагічную дапамогу ў Мінскім крызісным рэабілітацыйным цэнтры можа атрымаць кожны, каму яна патрэбна. Прыходзяць паасобку, парамі, а бывае, нават і сем'ямі. Можна пазваніць праз тэлефон (215-53-98, 257-96-27). Аднак самі псіхолагі кажуць, што любяць працаваць з людзьмі самнасам. Праз тэлефон можна аказаць толькі экстранную псіхалагічную дапамогу, а каб разабрацца ў сітуацыі і дапамагчы гэта зрабіць пацыенту, патрабуецца непасрэдны, жывы кантакт з чалавекам. Таму звычайна праз тэлефон яны працуюць толькі з іншагароднімі, якія не заўсёды могуць прыехаць у цэнтр, а з мінчукамі сустракаюцца «жыўцом».

Некаторыя сеансы тэрапіі праходзяць вельмі эмацыйна і сканчаюцца ўзрыдкамі наведніка. Часта яны ўспрымаюцца хваравіта, не многія людзі нават вытрымліваюць іх да канца. Не кожны гатовы паглядзець на сваё жыццё з іншага боку, а пагатоў змяніць сябе, сваё жыццё і ўзаемаадносіны з іншымі. Але калі гэтага не здараецца, то перамены да лепшага ў стане жанчыны заўважаюцца ўжо пасля другой сустрэчы з псіхолагам.

Як потым складваецца лёс гэтых людзей, псіхолагі не ведаюць. Яны прытрымліваюцца правіла не турбаваць і не тэлефанаваць ім дахаты. Але гатовыя ў любы момант дапамагчы, калі чалавек сам гэтага захоча.

### Часовы дом

Каля 3 тысяч чалавек за час існавання цэнтру атрымалі ў ім падтрымку. Некаму была патрэбная псіхалагічная, юрыдычная, а некаму і медычная дапамога. Калі выпадак асабліва цяжкі і жанчына не можа па розных прычынах больш жыць дома, а падацца больш няма куды, першым часам яна можа атрымаць прытулак у самім цэнтры. Праз яго ўжо прайшлі каля 100 чалавек, якія зазналі гвалт і пераслед ад блізкіх і сваякоў.

Прытулак разлічаны на 8 чалавек. Гэта звычайная кватэра ў жылым доме, абстаноўка там набліжана да хатняй. Звычайныя пакоі, кухня і санвузлы. Толькі ўласных ключоў ніхто з часовых жыхароў не мае. І ўдзень, і ўначы там абавязкова нехта ёсць – псіхолагі альбо сацыяльныя работнікі: яны заўсёды адамкнуць кватэру. Жыць тут можна бясплатна, а вось харчавацца трэба самастойна.

Пасяляюць туды на 7-10 дзён. Аднак быў выпадак, калі адной дзяўчыне давялося ў ім затрымацца ажно на год. Падманам яе знаёмыя адабралі ў яе кватэру, і пакуль яна не вярнула, то жыла ў прытулку. А некаторых жыхарак за кепскія паводзіны даводзілася высяляць і раней.

Праблемаў з імі хапае. Адна жанчына, у мінулым экстрасенс, вырашыла ачысціць пакой ад злых духаў, выпусціла з рук свечку – і пачацца пажар. Іншая пасля таго, як атрымала дазвол на засяленне, прывяла з сабою сяброўку, кучу дзяцей, збіралася прыцягнуць мех бульбы. Для захавання бульбы запатрабавала асобнае месца, а дзяцей, па яе разліках, мусілі глядзець работнікі цэнтру, пакуль яна сама ўдзень шукала працу.

Цяпер да прэтэндэнтаў на пасяленне ставяцца пільней. Адназначна адмаўляюць алкаголікам, бамжам і тым, хто мае псіхічныя захворванні. Жанчыны абавязкова мусяць прайсці праз агляд у гінеколага, кожны з жыхароў павінен трымаць адрас прытулку ў сакрэце ад сваіх знаёмых. Патрабуецца гэта, каб пазбегнуць нападаў з боку раз'юшаных мужоў. Мужчынаў, дарэчы, у прытулак не бяруць.




### «Мы працуем толькі з наступствамі...»

Амаль палову тых, хто звяртаецца ў крызісны цэнтр, прыводзяць туды сямейныя праблемы – развод, канфлікты з мужам, дзецьмі, бацькамі, а бывае, што і жорсткае абыходжанне ў сям'і. Адна з такіх тыповых сітуацыяў: жанчына прыйшла ў прытулак і першымі днямі нічога не рабіла, а толькі спала цэлымі суткамі. Як высветлілася, апошнія тры месяцы ўсябе дома яна не магла заснуць, бо муж ёй пагражаў смерцю. Ад смерці яе выратавала толькі тое, што, задрамаўшы на хвілінку на кухні, яна паспела прачнуцца і ў апошні момант адвярнуцца ад рукі мужа, які замахнуўся на яе сякераю.

Адразу ўзнікае пытанне, навошта чакаць смерці доўгія тры месяцы?

Вось як вытлумачыла такую сітуацыю псіхолаг крызіснага цэнтру Таццяна Валовіч:

– Хатні гвалт – бясконцы. Жанчыну тут шантажуюць. Рэч у тым, што пасля кепскага перыяду пачынаецца стадыя «мядовага месяцу», калі муж на каленях вымольвае прабачэнне. Аднак пасля гэтага ўсё пачынаецца нанова. А чым небяспечная сітуацыя хатняга гвалту, дык гэта тым, што праз гады два такога жыцця жанчына пачынае лічыць сябе ахвярай. Яна пераконвае сябе, што яна не рэалізавалася як маці, як жанчына, што гэта ейны лёс. Калі ў такі шлюб трапляе жанчына з заніжанай самаацэнкай, дык самаацэнка ў яе падае да нуля. У яе пачуццё віны перад сабою, перад мужам, перад усімі. Яна проста не лічыць сябе чалавекам і ўпэўненая, што заслугоўвае збіцця.

На думку псіхолагаў, прычына такіх бедаў жанчын у нашым грамадстве – гэта пагаршэнне сацыяльнага становішча і цэлых сем'яў, і жанчыны ў прыватнасці. Каб выправіць гэта, трэба не толькі ўкладаць шмат грошай у разнастайныя псіхалагічныя цэнтры, бо, па словах Таццяны Валовіч, у іх «мы працуем толькі з наступствамі...». Грошы патрэбна накіроўваць на вынішчэнне прычыны. А гэта ўсё той жа малы заробак, беспрацоўе...

**Алена ЛАБАНАВА**

## «Белавежская пушча» супраць Адміністрацыі прэзідэнта

Рэдакцыя недзяржаўнай беларускай газеты «Белавежская пушча» мае намер падаць судовы іск супраць Адміністрацыі прэзідэнта і звярнулася ў грамадскую арганізацыю «Экаправа» (Мінск) з просьбай падтрымаць выданне ў абароне яго правоў.

Як паведаміў БелаПАНу галоўны рэдактар газеты Валерый Дранчук, летась 21 мая рэдакцыя накіравала ліст у Адміністрацыю прэзідэнта і Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У лісце выкладалася ініцыятыва правесці сумесна з дзяржаўнымі структурамі ў ліпені і жніўні 2001 году прэс-туры журналістаў і прадстаўнікоў экалагічнай грамадскасці ў нацыянальныя паркі «Прыпяцкі», «Белавежская пушча» і Бярэзінскі біясферны запаведнік. Аўтары ліста абапіраліся на нацыянальныя і міжнародныя нормы аб доступе грамадзян да экалагічнай інфармацыі. Яны адзначалі, што шматлікія крытычныя публікацыі ў прэсе выклікаюць занепакоенасць лёсам нацыянальных прыродных каштоўнасцей.

Паводле слоў В.Дранчука, неўзабаве рэдакцыя газеты атрымала з Мінпрыроды ліст, у якім кіраўніцтва міністэрства станоўча ацаніла ініцыятыву выдання і выказала гатоўнасць уключыцца ў падрыхтоўку прэс-экскурсій пры ўмове станоўчага рашэння гэтага пытання ў Адміністрацыі прэзідэнта, якая з'яўляецца гаспадаром запаведных тэрыторый.

«Адміністрацыя прэзідэнта ніяк не адрэагавала на зварот газеты. У сувязі з гэтым газета звярнулася ў «Экаправа» з просьбай «разгледзець магчымасць кампетэнтнага ўдзелу гэтай арганізацыі ў падачы судовага іску па факту парушэння заканадаўчых нормаў з боку Адміністрацыі прэзідэнта ў частцы рэагавання на звароты грамадзян Беларусі».

**БелаПАН**

# Каму нежадана сумленная праца?

*У Праваабарончы цэнтр «Вясна» звярнулася маці Юрыя Казлоўскага, капітана памежвойскаў, начальніка змены аддзялення мытнага кантролю Нацыянальнага аэрапорту «Мінск», супраць якога выстаўленыя абвінавачанні ў дачы хабару і махлярстве. Зараз следства па справе Юрыя скончана і матэрыялы перададзеныя ў суд. Прэс-служба пракуратуры РБ распаўсюдзіла прэс-рэліз, у якім паведаміла пра абвінавачанні, якія прад'яўляюцца памежніку, і пра будучы суд. Шмат у якіх газетах прайшла гэтая інфармацыя, і амаль што паўсюль падавалася з абвінаваўчым ухілам.*

У сваю чаргу маці абвінавачанага Ларыса Фёдараўна Казлоўская, звярнуўшыся да праваабаронцаў, папрасіла дапамогі, каб прыцягнуць увагу грамадскасці да незаконных, па яе сцверджанні, абвінавачанняў, выстаўленых сыну, і выказаць пратэст супраць стварэння ў СМІ яшчэ да суду вобразу яе сына як злачынцы.

Вядома, віна альбо невінаватасць Ю.Казлоўскага будзе вызначаная судом, але маці Юрыя вельмі заклапочана тым, што следства вялося аднабакова і неаб'ектыўна, аказваўся псіхалагічны ціск як на Юрыя, так і на яе – жанчыну прымушалі паўплываць на сына, каб той прызнаў сваю віну хаця б часткова.

Паколькі Ларыса Фёдараўна ўпэўненая ў невінаватасці сына, яна змагаецца за адналенне справядлівасці і не хоча, каб Юрый стаў ахвярай ілжывага абвінавачання.

Ларыса Фёдараўна распавяла, што Юрыя затрымалі 20 чэрвеня 2001 году на вул. Бабруйскай у Мінску; 23 чэрвеня яго арыштавала Беларуская Вайсковая пракуратура і ўтрымлівала ў следчым ізалятары. Спачатку яго абвінавацілі па арт. 430 ч.2 КК РБ – атрыманне хабару ў памеры 500 даляраў ЗША шляхам вымагання ў грамадзяніна Афганістану, які мае статус бежанца і пражывае ў Мінску. Падчас следства абвінавачанне было перакваліфікаванае па двух іншых артыкулах – 209 ч.1 і ч.2 КК РБ і ч.5 арт. 16 і 431 ч.1 і ч.2 КК РБ (махлярства і дача хабару).

Маці памежніка лічыць, што затрыманне і абвінавачанне сыну маюць на мэце прыбраць яго з мяжы і стварыць магчымасць бесперашкоднага пераходу мяжы парушальнікам і нелегальным грамадзянам з іншых краінаў. Сапраўды, за час службы Юрый Казлоўскі і ягоная змена выявілі і затрымалі 118 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, а за 2001 год – 19 такіх парушальнікаў.

Вядома, для кожнай маці сваё дзіця – найлепшае, але ў дадзенай сітуацыі прывядзем сухія факты, якія сведчаць пра асобу Юрыя Казлоўскага: мае 1-класную кваліфікацыю, у 2000-2001 гг. узнагароджаны граматамі старшыні ДК ПВ Беларусі за 3-е месца ў спаборніцтве на найлепшага начальніка змены падраздзяленняў памежнага кантролю Памежных войскаў РБ, а старшынём ДК ПВ Рэспублікі Беларусь узнагароджаны нагруднымі знакамі 1-ай і 2-ой ступені ў 1999 і 2001 годзе як выдатнік памежных войскаў; знаходзіцца ў рэзерве старшыні ДК ПВ Рэспублікі Беларусь дзеля вылучэння па службе.

За свайго служачага ўступіўся і Дзяржаўны камітэт памежных войскаў. Старшыня Дзяржкамітэту памежных войскаў А.Паўлоўскі накіраваў вайсковаму пракурору В.Любавіцкаму ліст, у якім адзначыў, што «за час праходжання службы капітан Казлоўскі Ю.І. праявіў сябе як граматны, добра падрыхтаваны афіцэр. Пры прыняцці рашэння ў адносінах да капітана Казлоўскага Ю.І. прашу ўзяць пад увагу, што падчас выканання службовых абавязкаў раней падобных парушэнняў не дапускаў». Больш за тое, знаходзячыся пад следствам, Юрый Казлоўскі быў аднаўлены на сваім працоўным месцы і працягвае службу, што сведчыць пра давер да гэтага чалавека з боку кіраўніцтва і калегаў.

Маці Юрыя кажа: «Я лічу, што мой сумленны сын камусьці нежаданы, ён заўсёды быў сапраўдным афіцэрам, надзейнай перашкодай для грамадзянаў, якія спрабуюць незаконна праехаць у нашую краіну, і менавіта з-за гэтага яго падставілі. На дадзены момант службовыя асобы Беларускай вайсковай пракуратуры зацікаўленыя ў тым, каб любымі спосабамі даказаць факт злачынства, і я не ўпэўненая, што яны, маючы вялікія ўладныя паўнамоцтвы, не даб'юцца гэтага».

Надзея застаецца толькі на справядлівы і бесстаронні суд. Калі Феміда дзейнічае з заплюшчанымі вачыма, магчыма, яна ўсё ж пачуе довады Юрыя Казлоўскага і ягонай абароны. Дарэчы, маці Юрыя, цалкам упэўненая ў невінаватасці сына, выступае ў якасці ягонага абаронцы як законны прадстаўнік.

**Таццяна РЭВЯКА**

## Выстава «для сваіх»



Фота Ю.Шпапака

Учора ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё выставы «Беларусь: тэлекамунікацыі, інфармацыя, банк, офіс» (*ТІВО*).

Вывучэнне стэндаў, дзе прадстаўленая прадукцыя каля 200 фірмаў з 15 краінаў свету, паказала: выстава амаль цалкам разлічаная на азнаямленне прафесіяналаў з новымі для Беларусі тэхнікай, магчымасцямі арганізацыі бізнес-працэсаў і г.д.

Што да звычайных спажыўцоў, то *ТІВО* вельмі не хапала відовішчнасці, захапляльнасці. Кампаніі ўжо не вераць у тое, што беларусы, паглядзеўшы на стэнды, гуртам кінуцца набываць камп'ютэры і прынтэры, вэб-камеры і лічбавыя фотаапараты. Таму, відаць, вырашылі зэканоміць высілкі і грошы, замацоўваючы ўражанне малацікавай «тусоўкі для сваіх». Сітуацыю не выратавалі нават па-дзівацку апранутыя і расфарбаваныя артысты, якія заклікалі наведаць той ці іншы стэнд.

Экспазіцыя, што месціцца на Янкі Купалы, 27, працягнецца да 5 красавіка. Кошт квіткоў: 5 тысяч рублёў сёння пасля 14.00 і заўтра да 14.00, і 2 тысячы – сёння з 10.00 да 14.00, у чацвер – з 14.00 і ў пятніцу – увесь дзень.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Палігон надзвычайных сітуацый

*На плошчы ў 8,5 тысяч гектараў у пасёлку Светлы Гай Барысаўскага раёну раскінуўся унікальны ў Еўропе палігон, на якім праходзяць падрыхтоўку пажарныя, ратаўнікі, узрыўнікі, адным словам, спецыялісты па папярэджанні і ліквідацыі надзвычайных сітуацыяў. Тут можна змадэляваць да паўтары тысячы разнастайных сітуацыяў, якія могуць здарыцца ў штодзённым жыцці – ад ратавання людзей з затопленых паводкай тэрыторыяў да аварыі на нафтахімічным комплексе ці газаправодзе.*

## Выпрабаванні не для кожнага мужчыны

На першы погляд палігон у Светлым Гаі – гэта звычайны пляц, на якім назбірана вялікая колькасць разнастайнага старога жалеззя: пабітыя машыны, тралейбус, грузавыя і пасажырскія вагоны, верталёт і нават пасажырскі самалёт. Але насамрэч усё гэта пляцоўкі для трэніровак (усяго іх каля чатырох дзесяткаў), дзе адпрацоўваюцца нестандартныя сітуацыі, якія толькі можна сабе нафантазіраваць.

Пры ўваходзе на палігон адразу відаць верталёт, замацаваны ўгары над вадою падпоркамі. Як растлумачыў Аляксандр Бурмака, першы намеснік дырэктара Інстытуту павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, пры якім знаходзіцца палігон, гэта трэнажор для адпрацоўкі прыёмаў дэсантавання і ратавання пацярпелых на вадзе. А каб заданне не падалося мёдам, унізе дэсантніка чакае сажалка 4-метровай глыбіні з досыць вялікімі хвалямі, створанымі пры дапамозе вентылятара, якія перашкаджаюць патрапіць у лодку.

Ідзем далей. Кавалак рэек, некалькі пасажырскіх і грузавых вагонаў, раскіданых побач. Гэта мінікопія сітуацыі катастрофы на чыгунцы.

Непадалёк стаіць пасляаварыйны «запарожац». Скамечаным дахам ён больш нагадвае нейкі бутэрброд з жалеза. Гэта аўтамабільная аварыя, таму «запарожцу» пастаянна зразаюць дах, каб вызваліць пацярпелых. І кожны раз перад заняткамі яго нанова мацуюць, бо новая машына для кожнай трэніроўкі – гэта вялікая і неапраўданая раскоша.

У падземных тунелях праводзіцца падрыхтоўка да сітуацыяў, што могуць здарыцца ў метрапалітэне. Штучна ствараецца задымленне, шум, перашкоды, тэмпература ў тунелі павялічваецца да 1500 градусаў – карацей, усё як пры сапраўдным пажары ці сутыкненні цягнікоў. Касцюм пажарнага можа вытрымаць такую высокую тэмпературу толькі цягам 3 хвілінаў, а пажарнаму ж яшчэ трэба паспець выратаваць пасажыраў з вагону (іхнюю ролю на занятках выконваюць чучалы), аказаць пацярпелым першую медычную дапамогу і патушыць пажар.

Ёсць на палігоне і свае нафтавыя рэзервуары, а таксама імітатары газанафтавага фантану: полымя да 30 метраў у вышыню імітуе прарыў трубы з газам. А ў хуткім часе на светлагаеўскім палігоне з'явіцца нават газаправод. Для натуральнасці.

Самы цяжкі ўчастак для ратаўнікоў – гэта калектар з кабельнымі сеткамі працягласцю 1,5 кіламетра. Па сцэнарыі заняткаў недзе ў ім здараецца пажар, які трэба знайсці і патушыць. Але каб да яго дабрацца, неабходна ў цемры прайсці па калектары, які то звужаецца да вузкага лазу, то спускаецца ў падземны вадаём. Задачу ўскладняе яшчэ і тое, што падлога па ўсёй ягонай даўжыні выкладзена аўтамабільнымі шынамі, а з імі прагулка прыемнай ужо не падасца.

Гонар палігону – паласа псіхалагічнай падрыхтоўкі. Для пажарнікаў гэта марафон на псіхалагічную трываласць у цяжкіх умовах працы. Мяркуйце самі: за 12 хвілінаў трэба пераадолець 24 перашкоды рознай цяжкасці ў агні і дыме. У прыватнасці, забрацца і спусціцца з шасціметровай эстакады. Або такое – пралезці праз доўгі лаз, які ўвесь час пятляе і настолькі вузкі, што чалавек у супрацьгазе ў ім ужо завязне. На адным з этапаў паласы трэба прайсці праз «пустыню» – цыстэрну з дробным кварцавым пяском, які падымаецца вентылятарам так, што ствараецца нешта падобнае да «пясчанай буры». Калі супрацьгаз быў надзеты няправільна, чалавек удосталь наглытаецца пяску. Ці вось яшчэ адно з псіхалагічных выпрабаванняў: залазіш у цыстэрну, а там цябе слепіць мігаценне пражэктара, і ў такіх умовах у замкнёнай прасторы табе трэба дабрацца праз розныя перашкоды да выхаду.

Для кожнага этапу (перашкоды) на паласе ўсталяваны свае нарматывы часу, залежна ад цяжкасці – ад 5 да 45 секундаў. Укласціся ў іх вельмі цяжка, таму пасля такога марафону ў чалавека звычайна не застаецца сіл, ён проста падае на зямлю ледзь жывы.

## Нітка да ніткі

Усё пачыналася з 27 гектараў на базе ваенізаванага трэніровачнага цэнтру МНС, дзе з 1996 году і распачалося стварэнне палігону. Грошай, натуральна, не было, таму дарэчы прыйшлася і спісаная тэхніка, якую сцягвалі з усёй краіны. А таксама старая цэгла, якая пайшла на будаўніцтва падземных калектараў, і нават старыя аўтамабільныя пакрышкі. У выніку пры мінімальных выдатках атрымалася добрая трэніровачная база, якую швейцарскія спецыялісты ацанілі, між іншым, не менш як на 20 мільёнаў доляраў. Па максімальных падліках, яшчэ мільёнаў 15 – і базу можна было б зрабіць ідэальнай, з самымі дарагімі трэнажорнымі комплексамі і новай замежнай тэхнікай.

Для параўнання: толькі на ўтрыманне падобнага трэніровачнага комплексу ў Іспаніі штогод сыходзіць 53 мільёны даляраў.

Не маючы шмат грошай, палігон у Светлым Гаі пакрысе пашыраецца. Нешта выдаткоўвае бюджэт, нешта зарабляецца на камерцыйным будаўніцтве і на падрыхтоўцы замежных спецыялістаў. Зараз, напрыклад, ідзе будаўніцтва манежу, дзе будзе ўсталяваны скаладром. На ім пачнецца падрыхтоўка спецыялістаў-высотнікаў, якія змогуць фарбаваць сцены на вышыні ці абслугоўваць радыётрансляцыйныя сеткі з мінімальнай рызыкай для свайго жыцця. Нідзе ў краіне іх пакуль не рыхтуюць, але патрэба ёсць вялікая.

## Выгадаваць ратаўніка – справа дарагая

З 2000 году палігон перайшоў пад крыло Інстытуту павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі МНС, які быў створаны на базе старога трэніровачнага цэнтру. Летась тут было вырашана стварыць Міжнародны цэнтр падрыхтоўкі ратаўнікоў, што дасць магчымасць зарабляць немалыя грошы. Тут вельмі дарэчы прыдаліся грошы швейцарцаў, якія займаюцца арганізацыяй падрыхтоўкі ратаўнікоў па міжнародных гуманітарных праграмах, а зараз зацікавіліся інстытутам. За іхнія сродкі будуецца інтэрнат, і ў хуткім часе яшчэ будзе спраектаваны вучэбна-лабараторны корпус.

Натуральна, гэта не мецэнацтва з іхняга боку, а захады дзеля будучай выгады. За мяжой месяц падрыхтоўкі аднаго ратаўніка каштуе каля 10 тысяч даляраў, а ў нас гэта будзе абыходзіцца значна танней. У гэтым годзе плануецца прыняць каля 80 замежнікаў – пакуль толькі з СНД, а таксама палякаў і прыбалтаў.

Прыблізна ў 900 даляраў абыходзіцца дзяржаўнаму бюджэту месяц падрыхтоўкі аднаго такога спецыяліста для нашых унутраных патрэбаў. Пакуль інстытут выпусціў каля 800 спецыялістаў – ад узрыўнікоў да сапёраў. Каб атрымаць нейкую практыку, па дамоўленасці з расійскім МНС, які займаецца разміраваннем у Югаславіі, нашыя спецыялісты цяпер будуць ездзіць туды разам з расейцамі.

Стаць ратаўніком вельмі няпроста. Трэба прайсці праз 5 этапаў падрыхтоўкі. Калі пачынаць з нуля, то, каб стаць спецыялістам міжнароднага класу, спатрэбіцца мінімум 10 год. Пасля кожнага падрыхтоўчага этапу трэба адпрацаваць не менш за 2 гады, і толькі пасля гэтага прыступіць да новага. У выніку спецыяліст міжнароднага класу мусіць валодаць пяццю спецыяльнасцямі, якія патрабуюцца падчас ратавальных прац, быць інструктарам, мець правы на кіраванне аўтамабілем і валодаць замежнымі мовамі.

Неўзабаве пачнецца падрыхтоўка спецыялістаў па выжыванні. «Гэта спецыяліст, які можа аўтаномна праводзіць пошукавыя работы і выжыць два тыдні без староннняй дапамогі, – тлумачыць Аляксандр Бурмака. – Прычым у любых умовах: ад холаду да спякоты, у лесе, балоце і ў вадзе. У нас у межах гэтых 8,5 гектараў палігону 25 кіламетраў гаю і 40 кіламетраў Бярэзіны. Ёсць і багнавыя балоты, куды меліярацыя яшчэ не дайшла. Таму можна сцвярджаць, што спецыяліст, які будзе праходзіць падрыхтоўку па гэтай праграме, хопіць гора ад душы. Але гэта будзе сапраўды высокакласны спецыяліст». Гэткія спецыялісты патрабуюцца, напрыклад, у пошукава-выратавальнай службе на выпадак якой-небудзь авіякатастрофы на нашай тэрыторыі, калі прыйдзецца і людзей ратаваць, і завалы разбіраць у самых неспрыяльных умовах. Згодна з міжнароднымі патрабаваннямі, такая служба мусіць быць у кожнай краіне для бяспекі палётаў пасажырскіх самалётаў.

Падыходы да падрыхтоўкі спецыялістаў у нас і ў замежжы зусім розныя. Там аддаюць перавагу вузкапрофільнаму навучанню, а ў нас наадварот – рыхтуюць майстра на ўсе рукі, які не разгубіцца ў любой сітуацыі.

**Алена ЛАБАНАВА, фота Ул. ШЛАПАКА, Н.ФЯДОСІКА**














# Камікадзэ ў чарзе ў рай

*У «Кнізе тэрору» экстрэмісты Абдэля Басэта Адэха назавуць «камікадзэ № 60» новай інтыфады. Ён апынецца амаль пасярэдзіне доўгага спісу смяротнікаў, які з 1993 году налічвае як мінімум 129 нападаў-самагубстваў. Розныя перыяды – розныя матывацыі. Але ў іх адзіная мэта: пасеяць сярод ізраільцянаў паніку і прымусіць іх саступіць.*



«Гэта праўда, што камікадзэ – чалавек, які адчаяўся, але сваімі дзеяннямі ён спадзяецца парушыць стратэгічную перавагу Ізраілю, стварыць процівагу страху», – так лічаць каментатары.

**Запаветы**. Размовы са сваякамі і сябрамі камікадзэ дазваляюць выдзеліць 5 запаветаў, якія падштурхоўваюць да агрэсіўнага самагубства: 1) служыць Палесціне; 2) адпомсціць за забойства сябра ці сваяка; 3) дзейнічаць дзеля Алаха; 4) зрабіць што-небудзь, каб змяніць сітуацыю; 5) адрэагаваць на акупацыю. Шахід (пакутнік) – гэта сапраўдная чалавечая бомба. Гэта і фізічны, і псіхалагічны выбух.

**Чарга**. Ніколі раней палесцінскія радыкальныя групоўкі не маглі разлічваць на такую колькасць тэрарыстаў, гатовых прынесці сябе ў ахвяру. Цяпер «Хамас» і «Джыхад» маюць вялікія спісы маладых людзей, якія прагнуць знішчаць невінаватых. Ёсць выпадкі, калі патэнцыйныя камікадзэ нават пераходзілі з адной арганізацыі ў другую, абы хутчэй перайсці да дзеяння. Арганізацыя «Брыгады пакутнікаў Аль-Аксы» прапанавала камікадзэ новыя магчымасці і новую сістэму нападаў – «ахвярныя дзеянні» ці «невяртанне». Сутнасць не палягае ў тым, што тэрарыст праходзіць у ізраільскі квартал, адкрывае агонь па людзях і страляе, пакуль яго не абясшкодзяць (хутчэй за ўсё – заб'юць). Па звестках паліцыі, такіх нападаў ужо здзейснена не меней за 15.

**Захоп**. Камікадзэ цяжка злавіць, і ўсё ж ізраільскім спецслужбам удалося папярэдзіць некалькі аперацыяў. З верасня 2000 году былі захоплены ці абясшкоджаны 17 тэрарыстаў-самагубцаў.

**Жанчыны**. «Хамас» і «Джыхад», як фундаментальныя ісламскія арганізацыі, забараняюць жанчынам браць удзел у барацьбе з Ізраілем. Але гэтае вета праігнаравалі «Брыгады пакутнікаў Аль-Аксы», якія двойчы – у прыватнасці, можна назваць медсястру Вафу Ідрыс і студэнтку Дарын Абу Айшэн – прадэманстравалі сваю гатоўнасць задзейнічаць для змагання любога палесцінца. Насельніцтва ўхваліла гэтае рашэнне. Апытанне, праведзенае ў Наблусе, паказала, што 64% яго жыхароў станоўча ставяцца да жанчын-камікадзэ.

**Бацькі**. Яшчэ адна навіна. Трое з камікадзэ мелі сем'і і былі бацькамі. Аднаму споўнілася 46 гадоў, ён гадаваў трох сыноў, а другі, 48-гадовы, пакінуў удовамі дзвюх сваіх жонак. Такога не здаралася ў часе першай інтыфады, калі пакутнікамі станавіліся галоўным чынам беспрацоўныя і тыя, хто даў клятву не ўступаць у шлюб.

**Захапленні**. Калі зірнуць на асабістае жыццё камікадзэ, можна шмат чаму падзівіцца. Многія з іх вельмі адданыя сваёй веры, старанна трымаюцца рэлігійнага рытуалу. Іх жыццё – гэта жыццё-малітва з рэдкімі перапынкамі на сціплыя забаўкі. Фадзі Амер гадаваў трусоў на даху свайго дома, Вафа Ідрыс любіла птушак, Дарын Абу Айшэн захаплялася філасофіяй Сакрата, Саід Хатары любіў паэзію і маляваў птушак.

**Фотаздымкі**. Апошняе, што зрабіў у сваім жыцці Радзіл Баргуці, камікадзэ, які загінуў перад французскай школай у Іерусаліме, – гэта схадзіў да фатографа. Ён увекавечыў сябе і падараваў здымкі брату і нявесце. Гэтага прыкладу сталі трымацца многія камікадзэ. Для апошняга здымка можа быць скарыстаны розны фон: мячэць у Іерусаліме, трапічны пляж, лес, возера, рамантычная алея ружаў, але ў модзе таксама стварэнне вобразу ў стылі Рэмба з аўтаматам напагатоў і банданай на галаве.

**Грошы**. Некаторыя сем'і страцілі дзяцей, але атрымалі грошы. Садам Хусейн абяцаў кожнаму шахіду ўзнагароду ў 25 тысяч даляраў. «Хамас» – каля 250 даляраў. Мяркуючы па сведчаннях сваякоў шахідаў, не ўсе атрымалі вызначаную прэмію. А самі камікадзэ мусяць задавальняцца раем: на іх думку, гэта дастатковая ўзнагарода, каб пайсці на забойства дзесяткаў невінаватых людзей.

**Corriere Della Sera, Італія**

# Кубінскі Майсей

*Вось ужо больш за 40 гадоў – са студзеня 1959 году – водзіць Фідэль Кастра свой народ «вернай дарогай». Таленавіты аратар, ён часам наведвае міжнародныя канферэнцыі, дзе распавядае свету аб прычынах беднасці і галечы. Разгарнуўшы* Советскую Белоруссию *за 29 сакавіка 2002 году, чытачы могуць пазнаёміцца з чарговым опусам палымянага рэвалюцыянера.*



Людзі, як вядома, дзеляцца на бедных і багатых. Існуюць дзве класічныя версіі, якія тлумачаць гэты феномен. З пункту гледжання багатых, эканамічнае першынство – вынік аплаты паводле працы. На думку беднякоў, іх проста рабуюць. Падобныя крайнасці часам падтрымліваюць і дзяржаўныя дзеячы. Лідэры багатых краін кажуць пра свабоду і закон як аснову росквіту. Іх калегі з краін «трэцяга свету» палка адстойваюць тэорыю рабунку. Дарэчы, асабістае багацце шмат каго з падобных калегаў даўно перавяліла за мільярд даляраў. Але гэта так, рэмарка. Час даць слова Фідэлю.

«Скрайняя галеча ў краінах трэцяга свету ахоплівае ўжо 1,2 мільярда чалавек. Гэтая прорва не скарачаецца, а расце. Розніца паміж даходамі самых багатых і самых бедных краін, якая ў 1960 годзе складала 37 разоў, сёння складае 74 разы. Дайшло да такой крайнасці, што актывы трох самых багатых людзей свету эквівалентныя сумарнаму ВУП 48 найбяднейшых краін. У 2001 годзе колькасць людзей, якія літаральна галадаюць, дасягнула 826 мільёнаў чалавек».

Лічбы можна прадоўжыць. Але ў чым прычына?

«У гэтай трагедыі нельга вінаваціць бедныя краіны. Яны не заваёвалі, не рабавалі цэлыя кантыненты, не ўсталёўвалі каланіяльнай сістэмы, не аднаўлялі рабства, не стварылі сучаснага імперыялізму. Яны былі ахвярамі гэтага». Цалкам лагічна адсюль вынікае, што «асноўная адказнасць за фінансаванне іх развіцця кладзецца на дзяржавы, якія сёння ў сілу відавочных гістарычных прычын карыстаюцца плёнам тых жорсткасцяў».

Як пяецца ў вядомай песні, «Я вам не скажу за ўсю Адэсу», то бок за ўвесь «трэці свет». Давайце пагаворым пра саму Кубу. Пройдзем следам за сучасным Майсеем па пустыні, у якую ён ператварыў некалі квітучы востраў.

З чаго пачынаюць рэвалюцыянеры, прыйшоўшы да ўлады? Правільна, з дэкрэтаў аб забароне палітычных партыяў і апазіцыйных газет. «Здольныя людзі, якія належаць да пэўных апазіцыйных партыяў, ужо займаюць месцы ў часовым урадзе... Другія... зробяць лепш, калі будуць маўчаць». Гэта газета «Рэвалюцыён» ад 7 студзеня 1959 году. Газета Фідэля, як вы, пэўна, здагадаліся. Што далей? Далей рэвалюцыйныя суды, суды бязлітасныя. Першым часам здараліся накладкі. Так, суд у Сант'яга апраўдаў сарака чатырох ваенных лётчыкаў Басіцты з-за адсутнасці доказаў іхнай віны. Давялося ўмяшацца асабіста, выступіць праз тэлебачанне і растлумачыць народу, што няправільны суд прыняў няправільнае рашэнне. Неўзабаве старшыню «няправільнага» суду знайшлі мёртвым (з кім не бывае). Якое рашэнне прыняў новы «правільны» суд, спадзяюся, тлумачыць не трэба. Паступова ад працоўнікаў перайшлі да паплечнікаў. Лік пайшоў на тысячы, потым на дзесяткі тысяч. Усё гэта дазволіла Кастра абвесціць 1 траўня 1961 году Кубу сацыялістычнай дзяржаваю. «Выбараў не будзе кожны дзень, казаў Фідэль, на Кубе праводзяцца выбары, бо рэвалюцыйны рэжым выказвае волю народу». Ясная рэч, а то чыю ж?

Воля воляй, але народ прасіў хлеба і патрабаваў відовішчаў. Апошняе забяспечылі коштам Амерыкі – з яе зрабілі ворага. Што да хлеба, то яго знайшлі ў краіне, якая, нават валодаючы ўкраінскімі чарназёмамі, ужо шмат гадоў не магла пракарміць сябе. Але прышч марксізму-ленінізму пад носам у Дзядзі Сэма, як і Парыж, быў варты імшы. Да васьмідзесятых гадоў штогадовыя савецкія датацыі «Востраву свабоды» дасягнулі 4,5 мільярдаў даляраў. Куды ўсё гэта падзелася? Нешта пайшло на прамысловыя гіганты кубінскіх пяцігодак, нешта на войска, якое хутка стала самым шматлікім у свеце (у пераліку на душу насельніцтва). Астатняе – на дабрабыт грамадзян, чые імёны дагэтуль трымаюцца ў таямніцы.

Адзіны, хто пасмеў спрацівіцца, – гэта эканамічныя паказчыкі. Доўгія гады гадавы прырост на душу насельніцтва складаў мінус 1,2%. Адна з самых багатых лацінаамерыканскіх краін стала адной з самых бедных з нацыянальным даходам на душу насельніцтва 810 даляраў (на пачатак 80-х).

Народ?

Народ маўчыць і галасуе нагамі, дакладней – рукамі. Куба – востраў, а значыць, уцякаць няма куды, толькі ўплаў. Практычна кожны, хто мог знайсці дзве дошкі, збіваў іх і адплываў у бок Фларыды. 40 міляў для такіх плытоў не жарты. Многія гінулі, але мільёны дасягнулі мэты. Якраз на іх даляры, як гэта ні парадаксальна, і існуе сёння рэжым. Пераводы сваякам, якія засталіся на радзіме, перавышаюць мільярд даляраў у год. На гэтыя грошы краіна і жыве, цягнучы напаўгалоднае існаванне, брыдучы за сваім Майсеем.

**Сяргей НІКАЛЮК**

# У Туркменістане генералаў паменела

Прэзідэнт Туркменістану ў панядзелак разжалаваў у радавыя трох генералаў камітэту нацыянальнай бяспекі. Гэта былыя міністр абароны генерал-маёр Курбандурды Бегенджаў, старшыня камітэту нацыянальнай бяспекі генерал-лейтэнант Мухамед Назараў і начальнік дзяржаўнай памежнай службы генерал-маёр Тыркіш Тырмыеў. «За сур'ёзныя недахопы ў працы і парушэнне дзеючага заканадаўства» былыя генералы пазбаўлены ўсіх матэрыяльных і іншых ільготаў, прадугледжаных для вайскоўцаў, а таксама дзяржаўных узнагарод. За месяц з моманту ўтварэння пад кіраўніцтвам Сапармурада Ніязава дзяржаўнай камісіі па расследаванні незаконнай дзейнасці камітэту дзяржаўнай бяспекі Туркменістану сваіх пасадаў і вайсковых званняў пазбавіліся каля 30 вышэйшых афіцэраў спецслужбы, прычым частка з іх ужо арыштавана і знаходзіцца пад следствам.

# Кітайскія манекены былі ў космасе

Прататып кітайскага касмічнага карабля «Шэнчжу III» прызямліўся ў панядзелак на тэрыторыі Унутранай Манголіі. Карабель стартаваў 25 сакавіка з касмадрому Цзюцюань і зрабіў 108 віткоў вакол Зямлі. За пускам назіраў кіраўнік КНР Цзян Цзэмінь.

Гэта ўжо трэці прататып, запушчаны ў рамках падрыхтоўкі пілатаванага палёту. Гэтым разам на борце капсулы ў космас былі накіраваныя манекены. Акрамя таго, у гэтым палёце карабель быў абсталяваны ўсімі сістэмамі жыццезабеспячэння і, паводле словаў спецыялістаў, з тэхнічнага пункту гледжання ўжо быў гатовы да палёту з касманаўтамі.

Кітайскае кіраўніцтва надае вялікае значэнне ўласнай касмічнай праграме. У свой час Кітай адмовіўся ад прапановы СССР запусціць свайго касманаўта на борце савецкага карабля. Як чакаецца, да 2005 году Кітай стане трэцяй краінай (пасля Расіі і ЗША), якая сваімі сіламі запусціць чалавека ў космас. Таксама ў Кітаі існуюць планы па запуску чалавека на Месяц.

# Матэрыяльная падтрымка тэрарыстаў



Дональд Рамсфельд абвінаваціў Іран, Ірак і Сірыю ў падтрымцы тэрарызму і эскалацыі гвалту на Блізкім Усходзе.

«Забойцы – гэта не пакутнікі... Акцыі гвалту супраць грамадзянскіх асобаў заўжды амаральныя, якімі б апраўданнямі ні прыкрываліся іх арганізатары», – заявіў Рамсфельд, выступаючы на брыфінгу ў Пентагоне. «Тэрарысты абвесцілі вайну цывілізацыі, а такія дзяржавы, як Ірак, Іран і Сірыя, патураюць і фінансуюць практыку палітычных забойстваў і дзеянняў баевікоў-камікадзэ». Кіраўнік амерыканскага абароннага ведамства, у прыватнасці, спаслаўся на рашэнне іракскіх уладаў выплачваць тысячы даляраў сем'ям палесцінскіх баевікоў, загінулых пры правядзенні акцыяў тэрору. «Улады Іраку, па сутнасці, штурхаюць людзей на шлях баевікоў-смяротнікаў і прапаноўваюць, наколькі я памятаю, 10 000 даляраў на сям'ю», – адзначыў Рамсфельд. (Урад Садама Хусейна выдзеліў каля 500 тысячаў даляраў сем'ям палесцінскіх камікадзэ. Прадстаўнікі іракскіх уладаў, згодна з інфармацыяй выдання, размеркавалі гэтую суму паміж 47 палесцінскімі сем'ямі з мэтай «ухваліць і падбадзёрыць будучых добраахвотнікаў-самазабойцаў). «Думаю, што такія дзеянні толькі патураюць забойствам ні ў чым не вінаватых мужчынаў, жанчынаў, дзяцей», – адзначыў кіраўнік мінабароны ЗША.

# «Балтыка» падвышае цэны

Кампанія «Балтыка» аб'явіла пра падвышэнне адпускных цэнаў на напоі ў бляшанках (у тым ліку і піва) на 10%. Напрыклад, адпускная цана бляшаначнага піва адной з самых папулярных марак – «Балтыка № 7» – паднялася з 11 да 12,5 руб.

Прадстаўнікі пiўзаводу тлумачаць неабходнасць падвышэння коштаў уведзенымі са студзеня новымі пошлінамі на імпарт алюміневых бляшанак. Да падвышэння пошлін кампанія закупляла іх у свайго польскага пастаўшчыка *Can Pack* па 10 цэнтаў за бляшанку. Пасля павелічэння пошлін з 18 да 41 еўра за 1 000 штук кошт польскай бляшанкі вырас да 12 цэнтаў. Цяпер, па словах Гушчына, кампанія ўжо не можа стрымаць папярэдні ўзровень цэнаў на бляшаначнае піва.

Аднак прэзідэнт кампаніі *РОСТАР*, буйнога расійскага вытворцы алюміневай бляшанкі, лічыць, што павелічэнне цэнаў на бляшаначныя напоі не звязана з ростам пошлін. Гэта вынік удалай рэкламнай кампаніі навінкі «Балтыкі» – напою *Party-mix*. Апрача таго, ён указвае і на магчымасць закупляць бляшанкі па канкурэнтных цэнах у расійскіх вытворцаў.

Незалежна ад таго, якія матывы падштурхоўваюць «Балтыку» падвышаць цэны на напоі ў бляшанках, аб аналагічных планах кажуць і іншыя вытворцы. Па словах камерцыйнага дырэктара *Bravo International* (вырабляе піва пад маркамі «Бачкароў» і *Loewenbrau*), кампанія таксама плануе падвысіць цэны на бляшаначную прадукцыю.

За апошнія два гады ў рэкламу бляшаначнага піва ў Расіі ўкладзена каля 4 мільёнаў даляраў, яго выпрацоўка вырасла ў пяць разоў. «Балтыка» разлівае ў бляшанкі каля 60% сваёй прадукцыі.

# Таямнічы крадзеж у Доме літаратара

## На пазачарговым з'ездзе беларускіх пісьменнікаў чакае дэтэктыўны сюжэт

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Між тым якраз праз тры месяцы пасля леташняга з'езду, 3 ліпеня 2001 году, спынілася фінансаванне Саюзу беларускіх пісьменнікаў.

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што гэтае здарэнне адбылося не абы-калі, а якраз напярэдадні паседжання Рады. Адпаведная заява накіраваная ў Партызанскі РАУС Мінску.

Старшыня Саюзу пісьменнікаў Вольга Іпатава не стала хаваць, што матэрыялы 13-га з'езду сапраўды зніклі. «З сейфу зніклі ўсе шэсць касет 13-га з'езду Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Са статуту «Беллітфонду», пераапрацаванага ў 1998 годзе ў выніку ўнясення зменаў, знік пункт статуту, па якім кіруе фондам адзін з намеснікаў старшыні Саюзу пісьменнікаў, а значыць, «Беллітфонд» з'яўляецца падпарадкаванай Саюзу пісьменнікаў структурай. Паколькі гэты пункт знік, юрыдычна атрымліваецца, што Літфонд – абсалютна іншая структура і можа існаваць сам па сабе. Гэта значыць, што старшыня Саюзу пісьменнікаў не будзе ведаць, што робіцца з Домам творчасці «Іслач» і што ўвогуле робіцца ў Літфондзе. «І такія спробы, дарэчы, ужо былі», – заявіла Вольга Іпатава.

19 сакавіка на Радзе СБП В.Іпатава зрабіла заяву, што яна здымае з сябе ўсялякую адказнасць за тое, што адбываецца ў Літфондзе: што дзеецца з маёмасцю Саюзу пісьменнікаў. «Мачульскі застаўся мне ў спадчыну. І ён быў настолькі «завязаны» на судах па «Іслачы», што мяняць яго можна было пасля аўдыту. А ў той час ці да таго было? Калі яго рэкамендавала ўжо я як намесніка, я дала яму падпісаць паперу: каб ён прыходзіў на працу не менш як на тры гадзіны, каб ён зрабіў празрыстай дзейнасць Літфонду, каб ён праводзіў лятучкі з удзелам Саюзу пісьменнікаў, і яшчэ некалькі падобных пунктаў, якія ясна сведчаць, што я ў Літфонд прабівалася праз вялікую барацьбу. І пасля 13-га з'езду я спрабавала даведацца – што ж робіцца ў Літфондзе. Але як адрэагаваў на гэта мой намеснік – ужо вядома, на жаль, усёй краіне. І форму яны выбралі тыпова пракурорскую – абвінавачыць у дрэнным характары, у немагчымасці працаваць разам. Нездарма ў заяве Радзе я напісала, што здымаю з сябе ўсякую адказнасць за маёмасць Літфонду: калі я не ведаю, што там робіцца, то, натуральна, я не магу і адказваць».


Страчаны Саюзам пісьменнікаў будынак паліклінікі

Для Вольгі Іпатавай гэтая структура застаецца ёй непадкантрольнаю – дзверы ў «Беллітфонд» для яе зачыненыя. І гэта пры тым, што па рашэнні з'езду менавіта старшыня нясе ўсю адказнасць за дзейнасць «Беллітфонду».

«У мяне няма права подпісу: першы подпіс – у Мачульскага, другі – у Міхноўскага. Так што калі пісалі, што Іпатава хоча нават прадаць Дом літаратара за 15 тысячаў даляраў – гэта глупства, бо ў мяне няма права подпісу. І хто запусціў гэтую дэзінфармацыю – я не ведаю», – кажа В.Іпатава.

Падобнае дыстанцыяванне «Беллітфонду» ад Саюзу пісьменнікаў не магло не выклікаць сур'ёзнай заклапочанасці. Асабліва ўлічваючы, што Саюз за пяць гадоў, якія мінулі пасля перадачы Дома літаратара кіраўніцтву справамі прэзідэнта, па неафіцыйных падліках, не атрымаў ад арэнды свайго Дома і былой паліклінікі каля 1 мільёна даляраў. Цяпер фактычна не падпарадкоўваецца СБП і «Беллітфонд», які непасрэдна распараджаецца ўсёй маёмасцю Саюзу. Дапусціць падобную «самастойнасць» – значыць пакінуць Саюз пісьменнікаў увогуле без усялякіх сродкаў для існавання.



Службовы ўваход у Дом літаратара. Магчыма праз гэтыя дзверы зніклі пратакол з'езду і касеты

**Рыгор БУЯН**

---

ПОШТА

# Жарты павінны быць разумнымі

Мне не ўсё роўна, што друкуе НАША СВАБОДА і як! Напрыклад, вельмі прыгожыя штодзённыя карыкатуры (якіх асабіста я з нецярпеннем чакаю) раптам зменшыліся ў памерах да амаль незаўважальнага фотакадру! Сорам таксама прапагандаваць нам так званы СБіР (а ў вас што ні нумар, дык пра гэтую пачвару).

Асабіста я ні за якія грошы (ні пад дулам пісталета) – не прыму ўдзелу (як таго прапануе зрабіць ваш Кірыла Пазьняк) у конкурсе на гімн саюзнай дзяржавы (якая існаваць не павінна!) Дарэчы, Сербія з Чарнагорыяй, як я лічу, таксама павінны «развесціся».

Але я прапанаваў быў узор сцяга Еўрапейска-азіяцкай эканамічнай супольнасці (накшталт ЕЭС), хоць не дужа спадзяюся на перамогу ў конкурсе і «ганарар»... Мой тэкст на музыку Н.Сакалоўскага я прапанаваў на конкурс гімну (ён адпавядае усім пажаданням; і стасуецца з мелодыяй сінхронна, што, дарэчы, не паказчык, бо гімн БССР «падганялі» пад тэкст; растактоўвалі, рабілі паўзы ў мелодыі – дык чаму не «разняволіць»? Дарэчы, каб быў хто з рок-музыкаў схільны, я б падказаў, як выканаць гэтую мелодыю ў стылі *heavy metal*. Можна быць куды заўгодна заангажаваным, але нельга не прызнаць, што «Магутны Божа» выдае мінорны настрой. «Радзіма мая дарагая» нагадвае пра кепскае грашовае становішча (і так ужо – даражэй няма куды), пра «Красуй, Беларусь» нічога не ведаю, бо не чуў (але які Васіль Раінчык – ведаю, ды нічога яму добрага не пажадаю).

Наагул, гімн – гэта штодзённая мантра, якая прыносіць тое, што спяваеш (таму працоўныя японскіх прадпрыемстваў штодзень перад працай спяваюць гімн свайго заводу). Калі «пройдзе» «Радзіма мая дарагая», дык мала не пакажацца! І усё ж я, нягледзячы на «мінор», за гімн «Магутны Божа», але камунякі (былыя – таксама!) у Бога ўсё роўна не вераць, як ім ні кажы! Таму утапічна спадзявацца на прыманне гімну «Магутны Божа»... Я прымаў удзел (у 1994 годзе, калі хацеў з'ехаць у Расію ад Кебіча) і ў конкурсе на новы гімн Расіі, але, хоць і прыйшоў пісьмовы адказ, што прыняты да ўдзелу ў конкурсе, не меў ніякай надзеі (тым больш, што аднойчы пачуў па *РТР*, як вядомы паэт Ілля Рэзнік прапаноўваў амаль тыя ж словы, як і ў маім варыянце, пэўна – скраў). Але ўрэшце мелодыю Глінкі «пахавалі» – «савок» сваю мелодыю пхнуў! Дарэчы, я лічу спрыяльнай для Беларусі нагоду надання гімну СССР статусу расійскага (словы Міхалкова падкарэктаваныя да новых умоваў). Але – вось глядзі ж ты, не ўгаманіліся.

Кірылу Пазьняку я параіў бы гэтак не жартаваць, бо жарты ў тэатры абсурду не ўспрымальныя!

Што да НАШАЙ СВАБОДЫ – дык чаму, дарэчы, яна не друкуе расклад тэлебачання на «8 канал» – ён жа ўжо працуе!

**З павагай**
**Ваш упарты чытач**
**Уладзіслаў ЖЫГАЛКА**

*(Друкуецца ў скароце, без прапанаванага аўтарам варыянту гімну, бо тэрмін конкурсу скончыўся 10 сакавіка)*

# Ганаруся прынцыпамі моладзі

У мінулым нумары газеты была надрукаваная нататка аб маладафронтаўцах на вясенняй уборцы вуліц Мінску і іншых гарадоў. Але ў ёй без патрэбнай, на маю думку, павагі асвятлялася рашэнне моладзі не прыбіраць вуліцы, названыя імёнамі камуністычных дзеячаў. Аўтарка, нехта Віка Фядорчанка, упікала маладафронтаўцаў, што не пайшлі з венікамі на мінскую вуліцу Карла Маркса. І добра што не пайшлі. Бо даўно час вярнуць ёй гістарычную назву – Падгорная. Можна таксама назваць яе вуліца Народнай міліцыі – там у 1917 годзе, у дабальшавіцкі час, быў першы міліцэйскі пастарунак.

**Уладзімір ЗАЛЕЎСКІ, Мінск**

---

# Пазасудовыя пакаранні смерцю ў ГУЛАГу

*У літаратуры шмат напісана пра гібель у СССР палітзняволеных у гады таталітарных рэпрэсіяў. Статыстыка досыць верагодна паведамляе пра колькасць прысуджаных да найвышэйшай меры пакарання (НМП) – расстрэлу па арт. 58. Па звестках Грамадскага цэнтру імя А.Д.Сахарава, расстраляных было каля мільёну. Агулам жа знішчаных у ходзе палітычных рэпрэсіяў – у дзесяткі разоў больш. Гібель палітзняволеных у турмах і лагерах у выніку мэтанакіраванай дзейнасці адміністрацыі карных установаў варта было б называць свядомым усмерчваннем або, дакладней, – забойствам.*

Можна назваць наступныя спосабы і метады такіх распраў:

***Агульныя санітарна-медыцынскія ўмовы жыцця ў турмах і лагерах, адсутнасць сістэмы аховы працы***

**Давядзенне людзей да стану «дахадзягаў».** Дыстрафічны стан палітзняволеных непазбежна наступаў у большыні ў сувязі з кепскім харчаваннем і цяжкой фізічнай працай, што цягнула за сабою незваротныя змены ў арганізме і смерць. Аналагічнае становішча было ў палітзняволеных і ў турмах. Так, акадэмік Н.Вавілаў памёр у 1942 годзе ў Саратаўскай турме ад голаду.

Антысанітарныя ўмовы (бруд у камерах і бараках, рэдкія, часта без гарачай вады і мыла, лазні, кепска абсталяваныя прыбіральні, у турмах – «парашы», якія выносілі з камераў раз на суткі) аб'ектыўна вялі да інфекцыйных захворванняў, што цягнула за сабою масавыя смерці фізічна знясіленых людзей.

**Адсутнасць лячэння.** Медычную дапамогу, адносна прыстойнае лячэнне атрымлівалі адзінкі. Абсалютная большыня хворых атрымлівала прымітыўнае лячэнне, як правіла, са спазненнем. Многія не лячылі зусім. Адгэтуль – масавая смяротнасць з-за хваробаў.

**Няшчасныя выпадкі на цяжкіх фізічных працах.** Праца на лесапавале, разгрузцы і пагрузцы, на шахтах і ў кар'ерах была пазбаўлена аховы працы. Палітзняволеныя гінулі ў аварыях і катастрофах. Пацярпелым не аказвалася неадкладнай медычнай дапамогі. Цяжка параненыя мусілі чакаць канца рабочай змены, калі таварышы маглі аднесці іх у жылую зону, дзе быў медперсанал. Таму многім лячэнне ўжо не магло дапамагчы.

***Узаемаадносіны паміж аховай лагераў, турмаў і палітзняволенымі***

**Збіццё палітзняволеных,** цкаванне іх сабакамі падчас рабочай змены. Часта, у сувязі з адмовай ад працы з-за бяссілля, хваробы, зняволенага збівалі ахоўнікі, яны ж правакавалі бойкі паміж працоўнымі, цкавалі сабакамі людзей, што падалі ад знямогі. Параненых зняволеных, з сінякамі і кровападцёкамі, прыносілі і звальвалі, не пытаючыся дазволу гаспадароў, на падлогу бліжэйшай хаты. Ахоўнік, які заставаўся з імі, не дазваляў аказваць дапамогу. Не аказваў яе і сам. Пацярпелыя часта не вытрымлівалі. Увечары ў зону прыносілі ўжо трупы.

**Расстрэлы на месцы.** Адмова ад працы з-за фізічнага стану не заўсёды канчалася толькі збіццём. У ахоўнікаў было права (і абавязак) ужываць зброю, каб спыніць «сабатаж». Акт аб «расстрэле на месцы» складаўся па вяртанні ў зону і падпісваўся ахоўнікамі. Падобныя дзеянні заахвочваліся грашовымі прэміямі.

**Расстрэлы пры «спробах уцёкаў»** правакаваліся і арганізоўваліся аховай, каб атрымаць грашовую прэмію.

Рабочая зона на лесапавале, якая мела форму квадрата, абмяжоўвалася высечкамі, каб з чатырох вышак, усталяваных па кутках, можна было бачыць і спыняць спробы выхаду, уцёкаў з яе. Пры пераходзе на новы сумежны ўчастак дзве вышкі пакідалі, а дзве другія пераносілі на новыя месцы. Такім чынам ствараўся ўчастак для працягу лесапавалу. Каб пасля дванаццацігадзіннай працоўнай змены не насіць у жылую зону інструмент і не цягнуць яго на сабе назаўтра, ахоўнікі дазвалялі пакідаць яго, схаваўшы ў старой зоне. Таму ў аховы заўсёды была магчымасць застрэліць вязня, пасланага раніцой па інструмент за межы цяперашняй рабочай зоны як «уцекача». Грашовая ўзнагарода потым дзялілася паміж тым, хто пасылаў па інструмент, і тым, хто страляў.

***Мэтавыя масавыя забойствы ў лагерах***

Здушэнне лагерных паўстанняў. **Відавочцы і ўдзельнікі гэтых паўстанняў зафіксавалі канкрэтныя прыклады крывавай бязлітаснасці тых, хто ўдзельнічаў у іх здушэнні (танкі буксавалі на расціснутых людскіх целах, спыняліся ад наматаных на гусеніцы вантробаў).**

**Забойствы «праз забыўлівасць».** Падчас будоўлі Рыбінскага гідравузла і затаплення новага рэчышча ракі Шэксны ў кастрычніку 1940 году вязням не падалі каманды на выхад з месца працы – з дна новага рэчышча. У выніку было патоплена прыкладна 18 тысяч чалавек. І цяпер яшчэ жывуць тыя, хто памятае, як да берагоў рукатворнага мора прыбівала мноства трупаў у лагернай вопратцы.

**Забойствы на водных шляхах.** Вядома багата выпадкаў затаплення баржаў, другіх плаўсродкаў з вязнямі, якіх перавозілі ў трумах да месцаў адбыцця зняволення. Найчасцей гэта адбывалася ў Ахоцкім моры пры транспартаванні палітвязняў у магаданскія лагеры з прыморскіх портаў.

**Забойствы вязняў па паўторных судовых працэсах** (па 58-м артыкуле). У дадатковых расстрэльных спісах такіх дзесяткі і дзесяткі. У іх не пазначана ні месца жыхарства, ні прафесія асуджанага, ні артыкул, па якім ён асуджаны. Усю інфармацыю замяняе адно слова – вязень. Мяркуючы па тым, што даты прысуду да НМП і прывядзення іх у выкананне супадаюць, можна зрабіць выснову, што такія суды над ужо асуджанымі насілі характар кампаніяў па знішчэнні людзей.

Жахаючыя маштабам забойствы, якія здзейсніла рэпрэсіўная сістэма ў тыя, не надта далёкія, часы, трэба выразна ўсведамляць, што любая сістэма мае прынамсі дзве якасці:

яе ўзнікненне ў сацыяльнай сферы – заўсёды вынік мэтанакіраванай дзейнасці людзей, іх групаў і арганізацыяў;

сістэма – гэта ўстойлівая структура, здатная да хуткага захавання і хуткага аднаўлення.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ**

# Прафілактыка самагубстваў

*Штогод у свеце адзін мільён чалавек канчае жыццё самагубствам, і 20-30 мільёнаў робяць спробу звесці рахункі з жыццём.*

Імкненне да самагубства ніколі не бывае наступствам толькі хваравітай жыццёвай сітуацыі, вялікага стрэсу або перажываньняў, яно выспявае ў сям'і на аснове двух фактараў рызыкі: генетыкі і стасункаў з бацькамі.

У гэтым перакананы Джон Ман, прафесар псіхіятрыі і радыялогіі, які ўзначальвае аддзяленне нейранавук у Калумбійскім універсітэце Нью-Йорку. На яго думку, імкненне да суіцыду значна павялічваецца пры развіцці больш ці менш небяспечных псіхіятрычных працэсаў. «Пры адсутнасці разумовых адхіленняў выпадкі самагубства вельмі рэдкія. У больш як 90% выпадкаў на момант смерці існуюць дыягнаставаныя ментальныя захворванні», – адзначае ён. У 60% самагубцаў назіраюцца рысы дэпрэсіі, а ў астатніх 40% гэта могуць быць расстройствы, звязаныя з праблемамі асобы, шызафрэнія, наркаманія ці алкагалізм.

На думку Мана, папярэджванне самагубства павінна планавацца на падставе пастаўленага дыягназу і карэктна праведзенага лячэння разумовых праблем. «Тым не менш, – папярэджвае ён, – толькі адзін з шасці пацыентаў, якія церпяць на дэпрэсію, мае правільны дыягназ».

Ман, які лічыцца адным з сусветных свяцілаў у галіне даследавання біяпсіхасацыяльных фактараў самагубства, удакладняе, што бальшыня пацыентаў псіхіятраў не канчае жыцця самагубствам, «а таму паняцці разумовага адхілення і самагубства не могуць прыраўноўвацца адно да аднаго». То бок існуюць і іншыя фактары, дагэтуль не настолькі добра вядомыя, «якія можна абазначыць як уразлівасць і імпульсіўнасць».

Назіранні і даследаванні паказваюць, што найбольшая колькасць самагубстваў сярод пацыентаў, якія праходзяць лячэнне ў псіхіятраў, зарэгістравана сярод тых, чыя гісторыя хваробы мае згадкі пра частыя выпадкі паводзін імпульсіўных, агрэсіўных, імкнення да суперніцтва і няпэўнасці, як кажа пра гэта Ман. Чым больш зарад агрэсіўнасці існуе ў грамадстве, якое атачае нас, тым больш і самагубстваў. Напрыклад, сярод амерыканскага насельніцтва ў веку 15–35 гадоў такія паводзіны – трэцяя прычына смерці пасля аварыяў і забойстваў. У Іспаніі і іншых краінах Еўропы гэты фактар стаіць на другім месцы.

Ман адзначае, што мужчыны часцей скончваюць жыццё самагубствам, а жанчыны робяць болей спробаў суіцыду. За апошнія пяць гадоў такія паводзіны сярод мацнейшай паловы чалавецтва павялічыліся на 25%.

На думку псіхіятра, даследаванне біялагічных фактараў паказала наяўнасць у такіх выпадках расстройства сістэмы, звязанай з вялікай колькасцю падкантрольных мозгу функцыяў. «Ускрыцці з выкарыстаннем тэхнікі нейравыяваў паказалі, што мозг самагубцаў мае ніжэйшы ўзровень сератаніну ў лобным разрэзе, звязаным з імпульсіўнасцю. Гэтае нядаўняе адкрыццё дазволіць нам ідэнтыфікаваць тыя жывыя істоты, якія больш за астатніх рызыкуюць скончыць жыццё самагубствам», – адзначае Ман, які стаіць на чале навуковай рады амерыканскага фонду па прадухіленні самагубстваў.

Даследчык тлумачыць, што ў дэпрэсіўных хворых, у якіх дыягнастуецца высокая ступень суіцыдальнай рызыкі, колькасць сератаніну ў розных абласцях зрэзу галаўнога мозгу зменшана, а ў найбольш схільных, як было высвятлена, узровень гэтага нейраперадатчыка яшчэ больш зніжаны ў лобнай зоне.

**El Pais**



Э. Хемінгуэй скончыў жыццё самагубствам у 1961 годзе

# Зношаныя забаўкі

*На гэтым тыдні ў Мінску распачынаецца грунтоўная рэканструкцыя Цэнтральнага дзіцячага парку імя Горкага, якая абыдзецца сталічнаму бюджэту ў 2,5 мільярды рублёў, працягнецца некалькі гадоў і мае завершыцца да 2005 году, калі парку споўніцца 200 гадоў.*




Фота Ул. ШЛАПАКА

Папярэдняя рэканструкцыя ў гэтым парку, які займае 28 гектараў, была амаль 40 гадоў таму – у 1963 годзе. Закладзены ён быў у 1800 годзе, а адкрыты афіцыйна ў 1805 годзе губернатарам Карнеевым. Таму доўгі час насіў назву губернатарскага саду, а да Другой сусветнай вайны называўся яшчэ садам «Прафінтэрн».

Да 200-гадовага юбілею ў парку Горкага правядуць санітарную высечку старых і хворых дрэваў, пакладуць новыя ходнікі. Таксама абяцаецца, што з'явяцца новыя атракцыёны. Рамонтам аркі-ўваходу тут заняліся яшчэ раней. Няблага было б, каб рэканструкцыя закранула і назву аднаго з самых любімых месцаў адпачынку менчукоў. Дарэчы, гэтае пытанне ў Мінгарвыканкаме абмяркоўваецца, таму не выключана, што да 2005 году парк Горкага будзе перайменаваны. Прыкладам тут можа служыць парк 50-годдзя Кастрычніка, якому, пра што мала хто ведае, прыдумалі-такі новую назву – Будзілаўскі гай.

Магчыма, пасля рэканструкцыі парк Горкага дагоніць у рэйтынгу папулярнасці ў менчукоў парк імя Чалюскінцаў, дзе і болей атракцыёнаў, і цікавейшыя яны. Адно што агульнае ў атракцыёнаў усіх без выключэння мінскіх паркаў, дык гэта састарэласць і зношанасць. У прынцыпе, жыхары Мінску і самі могуць уявіць сабе, які ў іх узрост, па тым грукаце, што далёка чуваць, калі яны працуюць. Большасці атракцыёнаў, у тым ліку самым любімым сярод адпачываючых «Супер-8» і аўтадромам, гадоў па 25-30. То бок цяперашнія мінскія дзеці забаўляюцца на тых самых гушкалках, што і іхнія бацькі. Між тым, па нормах максімальны тэрмін эксплуатацыі атракцыёна мусіць складаць дзесьці 15 гадоў. Многія мінскія атракцыёны – гэта якраз тое, што было спісана па зношанасці за мяжой, у прыватнасці, у Чэхіі ці Нямеччыне.

Не дзіва, што многія атракцыёны пацыху зачыняюць, каб да якое бяды ў забаўках не дайшло. Дзякуй Богу, вялікіх трагедый на сталічных атракцыёнах не было. Такіх, напрыклад, як улетку 2000 году ў англійскім горадзе Блэкпуле, дзе на «амерыканскіх горках» аказаліся няспраўныя тармазы, і адзін вагон на хуткасці звыш 100 кіламетраў у гадзіну ўрэзаўся ў другі. У выніку здарэння пацярпела 15 чалавек.

Што праўда, перад пачаткам кожнага новага сезону, атракцыёны адмыслова тэстуюць. Натуральна, ламачча з рэальнай пагрозай чалавечаму жыццю ніхто запускаць не будзе. Спісваюць тое, што спрэс зношанае і не падлягае паладкам. Гэтак з парку Чалюскінцаў зніклі «халі-галі» і «паратрупер», якія ўславілі «Лепрыконс». Затое тут працуе «Кола агляду» ці, як інакш яго называюць, «чортава кола». У парку Горкага і ў парку 50-годдзя Кастрычніка яны не чынныя. Каб замяніць іх на новыя, няма грошай. Сучасны атракцыён «Кола агляду» каштуе да паўмільёна даляраў.



Фота Ул. ШЛАПАКА

А вось з новага ў мінскіх парках – хіба што надзьмутыя атракцыёны, але яны цікавяць толькі дзяцей дашкольнага веку. Карацей, сталічныя паркі – гэта далёка не «Дыснейленд». Праўда, мадэрнізавацца ім цяжка. Каб усталяваць нармальныя прыбіральні ды лаўкі, ужо не кажучы пра закупку сучасных атракцыёнаў, трэба багата зарабляць. А як заробіш, калі тыя ж кошты асабліва не падымеш, бо народ наш незаможны: падаражэюць атракцыёны – перастане хадзіць.

Дарэчы, калі парк Горкага адзначыць юбілей толькі праз некалькі гадоў, то ў дзвюх вядомых у сталіцы мясцінаў круглыя даты сёлета. 70 гадоў спаўняецца Батанічнаму саду і 130 гадоў – Цэнтральнаму скверу, што каля прэзідэнцкай рэзідэнцыі і які нядаўна рэканструявалі. Каб яшчэ на «Панікоўцы», як называе гэты сквер мінская моладзь, фантан «Хлопчык з лебедзем» працаваў як след, а не так, што то выключыцца, то б'е...

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Марная мара для новых бедных

*Сотні тысяч жыхароў сталіцы не маюць уласнага жылля. Хтосьці дзеліць дах разам з бацькамі, нехта наймае кватэру, а хто і збірае грошы на ўласную.*

### Жыллё ў наём

Гэта часовы спосаб вырашэння праблемы. Да таго ж – самы нецывілізаваны сегмент рынку нерухомасці. Бо, хоць прававая база здачы – найму кватэр і існуе, большасць грамадзян яе ігнаруе. Прычына простая – людзі не хочуць плаціць падаткаў. «Па-чорнаму» здаюць у наём звычайна тыя кватэры, якія ў савецкія часы атрымалі на дурніцу. Прыехаўшы у канцы 60-х – пачатку 70-х заваёўваць сталіцу, сялянскія дзеці хутка зразумелі, колькі разоў трэба скасаваць шлюб ці прапісаць сваякоў, каб атрымаць лішнюю «хату». Другая катэгорыя ўладальнікаў вольных кватэр – тыя, хто ў свой час «уклаў бабкі» ў нерухомасць. Цяпер яны іх «адбіваюць», здаючы элітныя кватэры замежным бізнесоўцам, прытрымліваючыся ўсіх фармальнасцяў: заключаюць дамову з наймальнікам, рэгіструюць яе ў падатковай інспекцыі, сочаць за тэрмінам рэгістрацыі кватаранта ў нашай краіне.

Кошт кватэры ў наём залежыць ад раёну гораду: аднапакаёўка з мэбляй у Шабанах каштуе 40 даляраў у месяц, такая ж на праспекце Пушкіна – 70, а на праспекце Скарыны ды яшчэ з тэлефонам – 130. Двухпакаёвыя кватэры з мэбляй і тэлефонам каштуюць ад 80 да 160 даляраў.

Элітныя кватэры з адпаведнай мэбляй, тэлефонам, спадарожнікавай антэнай, наборам бытавой тэхнікі (тэлевізар, відэа, пральная машына, пыласос, кухонны камбайн) каштуюць у межах 220-700 даляраў залежна ад плошчы і раёну.

### Другасны рынак

Кошт кватэр на другасным рынку расце, але колькасць здзелак не памяншаецца. У мінулым годзе назіралася зніжэнне цэн на кватэры. Аднак сёння кошт аднапакаёўкі пачынаецца з 8 тысяч даляраў і сягае 18 тысяч, двухпакаёўкі – 10-25 тысяч. Гэта цэны на кватэры тыпавых спажывецкіх якасцяў. Кватэры палепшанай планіроўкі ды ў прэстыжных раёнах каштуюць значна даражэй. Ёсць і за 80, і за 200 тысяч даляраў.

Рыэлтары прагназуюць, што з цягам часу кошты на жыллё павінны знізіцца. Справа ў тым, што шмат кватэр на продаж чакаюць свайго часу. Вядома, што ад аплаты падаходнага падатку вызваляецца грамадзянін, які на працягу пяці гадоў прадаў толькі адну кватэру. Згодна з урадавай пастановай, нельга прадаваць кватэры на працягу трох гадоў пасля выплаты льготнай пазыкі. Паступова гэтыя кватэры будуць «выкідвацца» на рынак.

### Долевае будаўніцтва

Гэта будаўніцтва жылля за ўласны кошт. Тут не існуе ніякіх абмежаванняў. Чалавек можа хоць штогод будаваць кватэры, калі мае грошы. Паводле існуючага заканадаўства, дэкларыраваць сродкі на будаўніцтва жылля не патрабуецца. Такі від будаўніцтва зручны тым, што, пакуль узводзіцца дом (1,5–2 гады), грошы ўносіцца пэўнымі долямі. Чым раней чалавек пачаў інвеставаць у будаўніцтва, тым танней яму абыходзіцца кватэра.

Долевае будаўніцтва вядуць дзяржаўныя і камерцыйныя структуры. Да першых адносіцца канцэрн «Мінскбуд» і УП «Упраўленне капітальнага будаўніцтва» Мінгарвыканкаму. Сярод камерцыйных фірм доўгажыхары – «Арэса–сэрвіс», «Забудова», «Мінсккомплексбанк». Дзяржаўныя прадпрыемствы будуюць дамы з розных матэрыялаў, і, у прыватнасці, толькі яны – з панеляў. Кошт аднаго квадратнага метра жылля ў такім доме – 270–300 даляраў. У цагляных і каркасных дамах «метры» значна даражэйшыя. Калі гэта дом тыповых спажывецкіх якасцей, то кв. метр будзе каштаваць 400-440 даляраў. А далей, у залежнасці ад месца будаўнічай пляцоўкі, планіроўкі, «навароту» кошт аднаго кв. метра вагаецца ад 600 да 1 100 даляраў.

Яшчэ не так даўно іншагароднія грамадзяне не мелі права набыць жыллё ў сталіцы, цяпер тут няма ніякіх перашкод.

### Ільготны крэдыт

Ён выдаецца АСБ «Беларусбанк» за кошт дзяржаўных мэтавых рэсурсаў грамадзянам, якія знаходзяцца на ўліку як маючыя патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і ўключаны ў спісы льготнага крэдытавання. Пры гэтым крэдытуецца мінімум жыллёвай плошчы, вызначаны адпаведным кодэксам, дадатковыя метры – за свае грошы.

У адміністрацыі аднаго сталічнага раёну карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ распавялі, што толькі трэцяя частка з тых, каму выдалі накіраванне на заключэнне дамовы на будаўніцтва кватэры праз УП «Упраўленне капітальнага будаўніцтва» (а толькі яно мае права будаваць жыллё з выкарыстаннем ільготных крэдытаў), скарысталі іх. Справа ў тым, што першы ўнёсак трэба рабіць з асабістых сродкаў, і складае ён 25% ад кошту жылля. Гэта сума аказваецца непасільнай для людзей.

### Высновы

Спецыялісты сцвярджаюць, што сітуацыя з жыллём палепшыцца, калі сярэдні заробак будзе адпавядаць кошту аднаго метра жылля. Цяпер права на крэдыт маюць тыя, у каго ўжо выраслі дзеці і, мабыць, з'явіліся ўнукі. Цікава, колькі будзе сённяшнім 20-гадовым, калі сярэдні заробак у нашай краіне выйдзе на адзнаку 300 даляраў? І колькі тады будзе каштаваць адзін метр жылля?

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1141 Нумар падпісаны ў друк 2/04/2002 (15:00) Наклад – 7.760